17 кастрычніка 2014 | № 39 (408)

Новы час

novychas.info

•КУЛЬТУРА •ГРАМАДСТВА •ЭКАНОМІКА
•ЛЮДЗІ •ПАДЗЕІ •ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Напішыце палітвязням!**
стар. 2

**6 ЦІ ПАТРЭБНА НАМ ГЕНДАРНАЯ РОЎНАСЦЬ?**

Ірына Саламаціна сцвярджае, што ў свеце, які ўсё больш глабалізуецца, размовы аб прыродзе полаў з'яўляюцца тупіковымі

**11 ТОЛЬКІ ЭБОЛЫ НЕ ХАПАЛА**




Ва Украіне прэса, палітыкум і грамадства ўсё больш спекулююць наконт непазбежнага прыходу эпідэміі ліхаманкі Эбола

**4–5 РЭПАРТАЖ З ДАНБАСКАГА ФРОНТУ**

У дарозе пад абстрэлам мне хацелася зрабіцца маленькім-маленькім і ўціснуцца ў падлогу



**14 ГАСАН КАНАПАЦКІ: ЖЫЦЦЁ ДЛЯ БЕЛАРУСІ**

Адным з пачынальнікаў беларускай вайсковай справы быў палкоўнік Рускага імператарскага войска, палкоўнік войска Беларускай Народнай Рэспублікі Гасан Канапацкі

# Парадоксы глабалізацыі

## Сусветнае падзенне коштаў на нафту можа справакаваць дэфолт у Беларусі



Сяргей ПУЛЬША

Сусветныя рынкі ліхаманіць. Напачатку тыдня паскорыўся працэс зніжэння сусветных коштаў на нафту. Каціроўкі асноўных марак гэтага прадукту (Brent і WTI) апусціліся ніжэй за $90 за барэль. Напрыклад, у чацвер кошт Brent склаў $82,91 за барэль, а амерыканскі гатунак WTI патаннеў да $80,71. Гэта самыя нізкія кошты са снежня 2010 года.

Найбуйнейшыя вытворцы нафты — Саудаўская Аравія і Кувейт — гатовыя мірыцца з нізкімі сусветнымі коштамі. Як паведаміла агенцтва Reuters, прадстаўнікі Саудаўскай Аравіі не супраць падзення коштаў да $80, калі гэта дапаможа краіне змагацца з канкурэнтамі. Міністр нафтавай прамысловасці Кувейта Алі аль-Амаір мяркуе, што скарачэнне здабычы нафты ўсё роўна не ўтрымае цэны ад падзення. Па ягоных словах, цэны могуць спыніцца ў межах $76–77 за барэль, бо гэта сабекошт здабычы нафты ў ЗША і Расіі.

У Беларусі нафты — кацяня наплакала. Здавалася б, жыві і радуйся: для нашых нафтаперапрацоўчых заводаў будзе палёгка: чым меншы кошт нафты, тым лягчэй ім забяспечыць сваю вытворчасць. Дый кошты на газ, якія прывязаныя да коштаў нафты, таксама знізяцца. Але насамрэч усё не так. Такое імклівае зніжэнне сусветных коштаў на нафту па нас ударыць вельмі балюча. А ўсё таму, што мы, па-першае, шчыльна завязаныя на пастаўкі гэтай сыравіны толькі з адной крыніцы — з Расіі. І, па-другое, мы яшчэ і шчыльна інтэграваныя ў расійскую эканамічна-фінансавую сістэму.

Узяць хаця б Дамову пра ЕАЭС. Мы яе паспяхова падпісалі 9 кастрычніка, і, згодна з дамоўленасцямі, зараз мы пакідаем у сябе палову расійскіх экспартных пошлінаў на нафту. Яшчэ па вясенніх прыкідках гэта было 1,5–2 мільярда долараў штогод. Пры падзенні коштаў на нафту зніжаецца і экспартная пошліна. Карацей, сусветнае зніжэнне коштаў на нафту «з'ела» ў нас частку нашых будучых даходаў, на якія мы, тым не менш, разлічвалі.

Больш за тое, мы дамагліся таго, што Расія кампенсуе нам свой «падатковы манеўр» — яшчэ адно зніжэнне тых самых экспартных пошлінаў і замену іх падаткам на здабычу

**76$**
**такім можа быць кошт барэля нафты**

карысных выкапняў. Па інфармацыі з розных крыніцаў, Расія пагадзілася пакідаць нам не палову, а ўсе 100% гэтых экспартных пошлінаў. Але глядзіце: зніжэнне коштаў на нафту, зніжэнне экспартных пошлінаў... Падаецца, што дабром для нас будзе, калі мы атрымаем гэтыя разлічаныя $1,5 мільярда, а не яшчэ менш.

Значна больш па нас ударыць ускосныя наступствы падзення нафтавых коштаў. Справа ў тым, што бюджэт Расіі прымаецца адразу на тры гады. Напачатку гэтага года ён быў сфармаваны з разлікамі коштаў на нафту: у 2014-м — $93, у 2015-м — $95, і ў 2016-м — таксама $95. Прычым, лічба ў $95 за барэль лічылася «крызіснай». І яшчэ трэба ўлічыць, што палова ўсёй даходнай часткі бюджэту Расіі фармуецца коштам нафтагазавых даходаў.




У Расіі ёсць пэўная «падушка бяспекі» — Рэзервовы фонд, у які збіраліся «лішнія» грошы з надзвычай высокіх коштаў на нафту. На 1 кастрычніка гэтага года ён складае 90 мільярдаў долараў ЗША. Па прычыне зніжэння коштаў на нафту ў Расіі з'явілася думка гэты фонд «распячатаць». «Калі бягучая цана на нафту ў 87 долараў за барэль захаваецца на 2015 год пры кошце рубля да долара ў 40 рублёў за долар... то мы вымушаны будзем звяртацца да рэзервовага фонду», — заявіў міністр фінансаў Расіі Антон Сілуанаў на пасяджэнні бюджэтнага камітэта Дзярждумы.

У Беларусі такой «падушкі бяспекі» няма. Больш за тое, ужо некалькі гадоў запар мы штогод просім у Расіі грошы — як правіла, памер запытанага крэдыту складае $2 мільярды. Гэтыя грошы, у асноўным, ідуць на рэструктурызацыю раней узятых пазыкаў. То бок, за кошт новага крэдыту мы аддаем старыя.

Калі ж кошты на нафту працягнуць падаць, то... Расія апынецца ў складанай сітуацыі: нафтагазавыя даходы будуць значна меншыя, чым запланавана дзейсным расійскім бюджэтам. Самой пазычыць грошай у Расіі ў сённяшніх варунках не атрымаецца — з-за яе дзеянняў ва Украіне яна амаль поўнасцю адрэзаная ад знешніх фінансавых і крэдытных рэсурсаў. Калі ўжо там узнікла думка пра тое, каб «залезці ў заначку», то ні на якія новыя крэдыты Беларусі разлічваць амаль не прыходзіцца.

Паўтара мільярда долараў, якія мы атрымаем (і ці атрымаем яшчэ?) з экспартных пошлінаў, ад спаўзання ў «даўгавую яму» нас наўрад ці ўратуюць. Паводле дадзеных Мінфіна, абслугоўванне і пагашэнне знешняга дзярждоўгу ў 2015 годзе абыдзецца Беларусі ў $4 мільярды: $3 мільярды на пагашэнне доўгу і $1 мільярд — на бягучае абслугоўванне пазыкаў (працэнты). Такім чынам, у дадатак да пошлінаў нам трэба недзе знайсці $2,5 (4 мінус 1,5) мільярда. Ці збярэм мы іх «сваімі сіламі»?

Гэта будзе вельмі складана, бо за падзеннем коштаў на нафту для нас абрынецца і рынак асноўнага гандлёвага партнёра, якім, ізноў жа, з'яўляецца Расія. Ва ўмовах дэфіцыту грошай у самой Расіі складана разлічваць на тое, што яна будзе масава набываць замежныя тавары, хай сабе і беларускія, за якія трэба разлічвацца валютай. То бок, з-за падзення коштаў на нафту варта чакаць і скарачэння даходаў ад экспарту ў Расію.

У выніку Беларусь можа прыйсці да «тэхнічнага дэфолту» — адмовы плаціць альбо працэнты па пазыках, альбо асноўную частку доўгу. Прыкладна тое, што здарылася ў Расіі ў 1998 годзе.

## ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

### 1 працэнт

На столькі Нацыянальны банк плануе зніжаць у месяц курс беларускага рубля.

Адпаведныя планы былі пазначаныя рэгулятарам па выніках разгляду сітуацыі ў эканоміцы і грашова-крэдытнай сферы ў студзені-жніўні 2014 года. Фішка ў тым, што з пачатку года, то бок за 10 месяцаў, курс беларускага рубля ўжо значна зніізўся. Няцяжка палічыць, што інавацыя Нацбанка можа істотна паўплываць на рост долара і еўра ў адносінах да беларускага рубля.

Між тым асноўнай мэтай грашова-крэдытнай палітыкі на 2014 год было вызначана зніжэнне інфляцыі да 11%. З улікам таго, што ў першай палове года рост спажывецкіх коштаў аказаўся вышэй запланаваных тэмпаў, улетку на ўрадавым узроўні прагноз па інфляцыі быў перагледжаны ў бок павелічэння. Аднак і гэтага аказалася не дастаткова. Паводле ацэнак дзяржаўных эканамістаў, інфляцыя ў Беларусі па выніках 2014 можа скласці 17,3%.

### 368 мільярдаў рублёў

Такі прыбытак атрымаў МАПІД за другі квартал 2014 года. Міністэрства фінансаў апублікавала справаздачу аб выніках дзейнасці ААТ.

Мяркуючы па лічбах, МАПІД — асноўны будаўнік панэльнага жылля для маючых патрэбу — стаў адным з пяці лідараў па прыбытку, саступіўшы месца традыцыйна шмат зарабляючым нафтаперапрацоўшчыкам і здабытчыкам калійнай солі.

Іншыя будаўнічыя арганізацыі, у пераважнай большасці, таксама у другім квартале спрацавалі ў плюс. Прыбытак «Мінскспрамбуда» склаў 21 мільярд рублёў. Прыкладна такім жа быў і прыбытак Мінскага домабудаўнічага камбіната. Таксама з прыбыткам была большасць будтрэстаў, праектных арганізацый і вытворцаў будматэрыялаў.

### 16,6 працэнта

На столькі працэнтаў у сярэднім сталі даражэй усе віды харчовай прадукцыі. Пра гэта гаворыцца ў справаздачы Нацыянальнага статыстычнага камітэта. З пачатку года па верасень уключна больш за ўсё падаражалі мяса і птушка — на 33,1%, цукар — на 23,4%, а таксама каўбасныя вырабы і вэнджаніна — на 19%. Прадукцыя раслінаводства стала даражэй на 8,7%.

Але, напэўна, самае слабае месца ўраду — свінагадоўля. У гэтым годзе былі пабітыя ўсе рэкорды па росту коштаў: у студзені свініна ў Беларусі прадавалася ў сярэднім па 67 212 рублёў за кілаграм, у маі — ужо па 101 445 рублёў. Дарэчы, ёсць ужо і першыя ахвяры: чыноўнікаў з Мінскай вобласці прыцягнуць да адказнасці за недастатковую працу па аднаўленні аб'ёмаў вытворчасці свініны. Такія высновы былі зробленыя пасля рэйду прэм'ер-міністра Беларусі Міхаіла Мясніковіча 14 кастрычніка па мясцовых фермах.

### 307 тысяч рублёў

Столькі трэба будзе заплаціць пракурорскім работнікам, міліцыянерам, суддзям, пераведзеным з іншых рэгіёнаў чыноўнікам за двухпакаёвую арэндную кватэру ў Заводскім раёне. А вось звычайным людзям за такую ж кватэру прыйдзецца заплаціць 1 мільён 536 тысяч рублёў.

Справа ў тым, што для разліку платы за арэнду жылля прымяняюцца паніжаючы і павышаючы каэфіцыенты. Паніжаючы — для першачаргавікоў, да якіх належаць пракурорскія работнікі, міліцыя, суддзі, чыноўнікі і г.д. Для ўсіх астатніх, хто мае патрэбу ў жыллі, але не адносіцца да першачаргавікоў, дзейнічае павышаючы каэфіцыент.

Дарэчы, прыведзеныя лічбы — рэальныя кошты на здадзены нядаўна яшчэ адзін дом з арэнднымі кватэрамі ў Заводскім раёне сталіцы, па вуліцы Тухачэўскага, 32.

### 414 мільёнаў долараў

Такі стартавы кошт пакета акцый гродзенскага прадпрыемства «Азот». Вакол гэтай сумы пачаўся гандаль паміж прадаўцом — беларускім урадам і ананімным пакупнікам. Пра гэта 14 кастрычніка заявіў першы намеснік прэм'ер-міністра Беларусі Уладзімір Сямашка. Гэта ўжо не першая спроба ўрада прадаць адно з найбольш буйных хімічных прадпрыемстваў Беларусі.

Ранейшыя спробы не мелі вынікаў, хутчэй за ўсё, з-за дадатковых умоваў: будучы ўласнік павінен быў выкупіць акцыі дадатковай эмісіі на суму 440 мільёнаў долараў, каб стаць паўнавартасным уласнікам пакету 50% плюс адна акцыя, мадэрнізаваць прадпрыемства, захаваць сацыяльны пакет і г.д.

Нягледзячы на рашучы настрой чыноўнікаў не адступаць ад заяўленай лічбы, беларускую аўдыторыю больш турбуе сам факт продажу. Па сутнасці, «Азот» — адно з апошніх значных прадметаў «фамільнага срэбра беларусаў». У інтэрнэце баяцца, што пасля продажу актываў справа можа дайсці да продажу зямлі. Прадаваць сапраўды больш ужо амаль нічога няма.

# Супраць прэвентыўных затрыманняў

Генадзь КЕСНЕР

**Міжнародная Федэрацыя правоў чалавека (FIDH) і Праваабарончы цэнтр «Вясна» падрыхтавалі даклад «Адвольныя прэвентыўныя затрыманні актывістаў у Беларусі». Прэзентацыя справаздачы адбылася 15 кастрычніка ў сядзібе «Вясны».**

У падрыхтаваным дакуменце ўздымаецца праблема сістэмнага і сістэматычнага выкарыстання беларускімі ўладамі прэвентыўных затрыманняў дэмакратычных актывістаў напярэдадні важных грамадскіх падзеяў дзеля папярэджання любых формаў пратэсту.

Як нагадаў намеснік старшыні арганізацыі Валянцін Стэфановіч, першыя прэвентыўныя затрыманні пачаліся ў Беларусі яшчэ ў 2006 годзе, напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў. Толькі ў той час былі затрыманыя 236 чалавек. Наступная хваля такіх затрыманняў адзначалася ў 2012 годзе перад прыездам у Мінск Уладзіміра Пуціна і Дзмітрыя Мядзведзева. А сёлета, перад хакейным першынством, «пад раздачу» трапілі не толькі палітычныя актывісты, але і футбольныя фанаты, асацыяльныя элементы, асобы без сталага месца жыхарства ды іншыя катэгорыя грамадзян, якія ўлады палічылі нядобранадзейнымі.

«У заканадаўстве дакладна прапісаны выпадкі, у якіх асоба можа быць пазбаўленая волі. У прыватнасці, адзначаецца, што без здзяйснення адміністрацыйнага правапарушэння могуць быць затрыманыя толькі людзі без пэўнага месца жыхарства, каб высветліць іх асобу і пашпартызаваць іх, а таксама асобы з псіхічнымі захворваннямі для перадачы іх у органы аховы здароўя. Усе астатнія затрыманні могуць мець месца толькі ў тым выпадку, калі асоба ўжо здзейсніла грамадска небяспечнае дзеянне», — адзначыў юрыст Павел Сапелкаа.

Што тычыцца адміністрацыйных правапарушэнняў, то чалавека, паводле заканадаўства, могуць затрымаць толькі пасля здзяйснення правапарушэння, але ніяк не па нейкім падазрэнні. Тым не менш, у Беларусі такія выпадкі маюць месца, і колькасць іх расце.

На прэзентацыі прысутнічаў і актывіст кампаніі «Еўрапейская Беларусь» Максім Вінярскі, які шматкроць зведаў на ўласным досведзе, што такое прэвентыўнае затрыманне. Паводле яго слоў, супрацоўнікі праваахоўных органаў і спецслужб літаральна палююць за ім.

Валянцін Стэфановіч дадаў, што апошнім часам праваахоўнікі ставяць за віну актывістам не толькі лаянку матам ці спраўленне натуральнай патрэбы ў грамадскім месцы, але і знаходжанне ў грамадскім месцы ў стане алкагольнага ап'янення. Апошнім прыкладам ёсць сітуацыя з актывістам «Zмены» — маладзёвага крыла кампаніі «Гавары праўду» — Паўлам Вінаградавым. Ён прыйшоў у РУУС па месцы жыхарства адзначацца 9 кастрычніка. А міліцыянты абвінавацілі яго, што ён п'яны, хоць экспертыза не зафіксавала ніякага наяўнасці алкаголю. Тым не менш, Вінаградаў зноў апынуўся на Акрэсціна на 15 сутак. Гэты актывіст толькі ў 2014 годзе правёў за кратамі 65 сутак па адміністрацыйных справах, а ад 2012 года — цэлых 250 сутак.

Беларускія і замежныя праваабаронцы 15 кастрычніка распачалі кампанію ў падтрымку Вінаградава, а «Вясна» і FIDH прынялі адмысловую заяву, якую агучыў Валянцін Стэфановіч. Як адзначаецца ў дакуменце, «Паўлу Вінаградаву рэгулярна пагражаюць крымінальным пераследам і фізічнай расправай з мэтай прымусіць спыніць мірную дзейнасць, накіраваную на выказванне свайго меркавання і пратэсту, а таксама пакінуць горад Мінск на час прэвентыўнага нагляду».

# Напішыце палітвязням!

Сяргей ПУЛЬША

**16 кастрычніка ў Мінску прайшоў форум былых палітзняволеных.**

Неабходнасць гэтага форума адзін з яго арганізатараў, сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» і «неаднойчы палітвязень» Павел Севярынец растлумачыў проста: «на палітвязняў усе забыліся. «Зараз, на фоне ўкраінскага крызісу, Еўропа размаўляе з Лукашэнкам. Туды-суды ездзяць эмісары, і гэтак далей. Аднак раней Еўропа прымала прынцыповае рашэнне: ніякіх перамоваў з Лукашэнкам да тых часоў, пакуль не будуць выпушчаныя ўсе палітвязні», — адзначыў Севярынец.

Але форум праводзіўся не толькі для таго, каб нагадаць Еўропе пра яе абавязкі і рашэнні. Найперш, гэта і спосаб нагадаць пра палітвязняў беларускаму грамадству. Кінадакументалістка Вольга Мікалайчык адзначыла, што з цягам часу цікавасць да палітвязняў у грамадстве губляецца. Усё менш праводзіцца акцый у іх падтрымку, знікае перапіска, а грамадства як бы прывыкае — ну, сядзіць сабе чалавек, і сядзіць, можа, хутка выйдзе, чакаем. Вольга зрабіла 30-хвілінны фільм, у якім грамадскія актывісты і родныя палітвязняў распавядаюць (а дакладней — нагадваюць) пра сваіх сяброў і паплечнікаў.

А нагадаць варта. Большасць палітвязняў зараз сядзяць у турмах з узмоцненым рэжымам адбыцця пакарання. Што гэта значыць? Гэта значыць стылая камера, для палітычных, як правіла, — на аднаго чалавека, «каменны мяшок». Адна прагулка ў дзень у турэмным дворыку цягам паўгадзіны-гадзіны. Гэта адзін званок на месяц дадому, рэгулярныя праблемы з ліставаннем. Адна перадача на год, а калі палітвязень — «злосны парушальнік» (гэтыя ярлык наклейваецца вельмі проста), то і ніводнай. І адно спатканне з роднымі ў год — і тое праз шкло.

Яўген Васьковіч, напрыклад, за час свайго яшчэ не скончанага заключэння адсядзеў у штрафным ізалятары 247 сутак.

І пра гэта ўсё мы амаль забыліся. Родныя палітвязняў кажуць, што лістоў да іх усё менш і менш: пішуць блізкія і сталыя сябры. Жонка Мікалая Дзядка Вера Хоціна адзначыла, што палітвязні ў Беларусі зараз не сканчаюцца, і грамадства ўжо пачало гэта ўспрымаць як належнае. «Зараз салідарнасць — гэта прачытаць навіну пра палітвязня, рэпастнуць яе і максімум яшчэ напісаць нейкі слязлівы каментар. На гэтым салідарнасць сканчаецца, і, шчыра кажучы, мы ўсе ў гэтым вінаватыя. Таму, калі я чую нашыя водгукі і пасылы да міжнароднай супольнасці, мне смешна. Чаму людзі ў Амерыцы ці Еўропе павінны хваляваца пра нашых палітвязняў, калі самі мы пра іх не хвалюемся?» — адзначыла Вера.

Як дапамагчы гэтым палітвязням? Проста напішыце ім.

Прэс-сакратар Аб'яднанай грамадзянскай партыі Ганна Красуліна адзначыла, што колькасць лістоў да палітвязня вельмі ўплывае на яго статус у калоніі. «Да тых, да каго прыходзіць шмат лістоў, іншыя зняволеныя ставяцца больш спрыяльна і прыязна. Я ўпэўненая, што і адміністрацыя калоніі адсочвае колькасць лістоў, і ад гэтай колькасці залежыць і стаўленне адміністрацыі да чалавека. Чым больш да яго лістоў, тым больш да яго ўвагі, і тым менш у адміністрацыі жадання прычапіцца да чалавека ці стварацць яму непрыемнасці», — лічыць Красуліна.

«Што пісаць? «Трымайся!»? Гэта, кажуць, выклікае раздражненне. Распісваць, як ты правёў адпачынак, пэўна, таксама не трэба. Але знайсці словы, і нават не словы для чалавека можна», — кажа Красуліна. Пры гэтым яна адзначыла, што чыстыя капэрты і розныя нестандартныя і стандартныя паштоўкі ў турме — гэта такая ж своеасаблівая «валюта», як і ўсім звыклыя гарбата і цыгарэты. «Дастаткова ўкласці ў свой ліст тры каперты, дзве паштоўкі і напісаць нешта кшталту: «Ігар, дасылаю табе дзве паштоўкі і тры каперты». За гэтыя паштоўкі, можа быць, чалавек лішні раз зможа пазваніць дадому», — адзначыла яна.

Канешне, на форуме былі прынятыя і рэзалюцыі, і іншыя заявы. Але самае значнае — усё ж напамін.

Напішыце палітвязням!

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Чым замяніць «харчовы Кландайк»?

Сяргей САЛАЎЁЎ



**Скарыстацца расійскім эмбарга на еўрапейскія прадукты не атрымалася. Вінаватыя ў гэтым, найперш, самі нахабныя беларусы. Не варта было так адкрыта і шчыра займацца еўрапейскім рээкспартам.**

З 20 кастрычніка Расія з абмяжоўвае імпарт садавіны і гароднiны з Беларусі, аб чым Рассельгаснагляд і праінфармаваў Мінсельгасхарч «сінявокай». Гэта рашэнне расійскага ведамства прагучала пасля серыі папярэджанняў аб рээкспарце праз Беларусь забароненай заходняй ежы. «З 20 кастрычніка бягучага года таварныя партыі абязлічанай і немаркіраванай падкаранцінай прадукцыі не падлягаюць увозу на тэрыторыю Расіі», — гаворыцца ў паведамленні ведамства. Рассельгаснагляд адзначае, што за два апошнія месяцы пастаўкі немаркіраванай прадукцыі выяўлены ў 82 выпадках.

Ведамства таксама нагадала беларускаму боку, што ўвоз прадукцыі высокай фітасанітарнай рызыкі, якая едзе транзітам па тэрыторыі Расіі з Беларусі ў Казахстан, будзе ажыццяўляцца выключна праз пункты пропуску «Чырвоны камень», «Чырвоная горка» і «Лабок» з указаннем канкрэтнага пункта прызначэння ў графе «дадатковая дэкларацыя» ў суправаджальных фітасанітарных сертыфікатах. Каб гэтая прадукцыя даехала да месца прызначэння, а не «згубілася» на нейкіх маскоўскіх рынках.

Карацей, Расія ўзмоцніць кантроль за выкананнем свайго эмбарга. Але і гэтае эмбарга само па сабе, хутчэй за ўсё, доўга не працягне. Праз тыдзень пасля ўвядзення гэтых абмежаванняў Еўропа пераглядзіць санкцыі ў дачыненні да федэрацыі. Паводле папярэдняй інфармацыі, гэта адбудзецца 27 кастрычніка. Перагляд санкцый будзе залежаць ад прагрэсу і стабілізацыі сітуацыі ва Украіне, ад вываду войскаў з зоны канфлікту, ад маніторынгу і кантролю за ўкраінска-расійскай мяжой АБСЕ.

«На аснове гэтых канкрэтных вынікаў, на аснове выканання мінскіх рашэнняў, на гэтай аснове мы будзем прымаць рашэнне аб магчымым частковым або поўным адкліканні санкцый. Самае галоўнае, каб быў прагрэс па стабілізацыі сітуацыі, каб выконваліся мінскія дамоўленасці», — падкрэсліў кіраўнік прадстаўніцтва ЕС у Расіі Вігаўдас Ушацкас.

Канешне, не поўны, але пэўны прагрэс у гэтай сферы ёсць. Уладзімір Пуцін падпісаў распараджэнне пра тое, каб расійскія войскі былі адведзеныя ад украінскай мяжы. Размова ідзе пра 17 600 вайскоўцаў. Выкананне гэтага даручэння заўважыла NATO, якое канстатавала — войскі сапраўды адводзяцца. Іншая справа, што ўзброеныя «ветлівыя людзі» ў Данбасе не жадаюць выконваць пагадненне аб спыненні агню, і ўзнікае думка: а ці кантралюе іх Масква? Тым не менш, адзін крок расійскае кіраўніцтва зрабіла.

І ў адказ на змякчэнне еўрапейскіх санкцый, калі такое будзе, Расія можа скасаваць сваё «харчовае эмбарга», якое шкодзіць, збольшага, выключна насельніцтву самой Расіі.

Такім чынам, Беларусі перакрываецца яшчэ адна крыніца даходаў, якой мы так радаваліся два месяцы таму, абяцаючы заліць «старэйшага» брата малаком і закідаць галоўкамі сыру. А калі гэтая крыніца ссохла, трэба шукаць іншую.

Такая крыніца даходу ў нас ёсць заўсёды — прыватызацыя. У канцы 2013 года была дасягнутая дамоўленасць аб продажы пакета 75% мінус 1 акцыя Мінскага завода колавых цягачоў расійскаму ААТ «РТ-Аўта» (дачыная структура карпарацыі «Растэхналогіі») па рынкавым кошце. Зараз беларускія ўлады завяршылі ацэнку актываў МЗКЦ. Як заўсёды, палічылі па-свойму: расійскі бок не згодны з вынікамі гэтай ацэнкі, канстатаваў першы віцэ-прэм'ер РБ Уладзімір Сямашка.

«Ацэнка актываў завяршылася, аднак з расійскім партнёрам пакуль ёсць рознагалоссі, таксама як і па праекце, які рэалізуецца з удзелам «Інтэграла», што ўваходзяць у лік пяці інтэграцыйных праектаў», — сказаў Сямашка. Карацей, беларусы «заламілі» кошт прадпрыемстваў.

І слушна зрабілі. Каму больш патрэбны МЗКТ? Беларусам, у якіх ён і так ёсць, альбо расіянам, якія на цягачах МЗКТ возяць свае ядзерныя ракеты? Калі яны не згодныя браць прадпрыемства — хай набываюць машыны, калі не набудуць машыны — хай у іх гэтыя ракеты «пыляцца на складах».

Тое ж самае з «Інтэгралам» — ён нам патрэбны ці ім? Калі яны не пагаджаюцца з нашым коштам — знойдзем іншых пакупнікоў. Вунь у Нью-Ёрку падчас Беларускага інвестыцыйнага форума Мясніковіч дамовіўся, што на тым жа «Інтэграле» будуць вырабляць чыпы IBM. Праўда, дамовіўся ён 25 верасня, што спецыялісты сусветна вядомага «лічбавага гіганта» прыедуць на «Інтэграл» праз тыдзень і паглядзяць на нашыя магутнасці. З тых часоў пра такі візіт нічога не паведамлялася, але ж факт ёсць, праўда?

І яшчэ адна цікавая навіна. Галоўнакамандуючы ваенна-паветраных сілаў Расіі Віктар Бондараў заявіў, што ў Беларусі з'явіцца яшчэ адна расійская авіябаза знішчальнікаў. Стварэнне яе запланавана на 2016 год у Бабруйску. На ваенным аэрадроме будуць змяшчацца расійскія Су-27. На рэканструкцыю гэтага аэрадрома ўжо падрыхтаванае тэхнічнае заданне.

Нагадаем, што раней Расія вырашыла перакінуць на беларускі аэрадром у Баранавічах авіяполк з 24 знішчальнікаў Су-27СМ3. У сярэдзіне жніўня Бондараў удакладніў, што расійскія ВПС гатовыя пачаць разгортванне авіябазы ў Баранавічах пасля заключэння адпаведнага міжурадавага пагаднення.

Акрамя самалётаў на беларускай тэрыторыі размяшчаюцца і іншыя расійскія ваенныя аб'екты: радыёлакацыйная станцыя «Волга» пад Ганцавічамі, якая ўваходзіць у сістэму папярэджання аб ракетным нападзе, і вузел сувязі ВМФ Расіі ў Вілейцы.

Карацей, размясціць у сябе мы можам, што заўгодна. Пытанне толькі ў тым, як і колькі за гэта заплацяць? Па-першае, аэрадром сам па сабе — «шкодная вытворчасць», які забруджвае зямлю авіяпалівам і паветра выкідамі. Як там у нас наконт экалагічных падаткаў? Па-другое, аб'екты кшталту РЛС і аэрадромаў з'яўляюцца ў выпадку ўзброенага канфлікту «аб'ектамі першага ўдару». За гэтую рызыку таксама трэба даплачваць. Напрыклад, за Габалінскую РЛС (аналаг нашай «Волгі») Азербайджан патрабаваў у Расіі $300 мільёнаў у год. А ЗША за сваю найбуйнейшую базу ВПС «Рамштайн» у Германіі штогод выкладваюць 1,5 мільярда еўра.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Аляксандр Рагачук

**Рагачук стаў старшынёй Брэсцкага гарвыканкама. Раней ён быў кіраўніком Маскоўскага раёна горада і быў галоўным ідэолагам Брэстчыны.**

Рагачук — удзельнік баявых дзеянняў у Афганістане, на радзіму вярнуўся пасля працы ў Расіі. Тым не менш, першае, што зрабіў Рагачук на гэтай пасадзе, — увёў абавязковы беларускамоўны дзень у арганізацыі. Па серадах ягоны аддзел размаўляе толькі па-беларуску.

«Мы ж працуем з наведвальнікамі, у тым ліку з беларускамоўнымі пісьменнікамі, журналістамі, прадстаўнікамі творчай інтэлігенцыі… Родную мову мы ведаем! Я, напрыклад, беларускую школу скончыў. Але гаварыць з нязвычкі цяжкавата. Таму вырашылі раз у тыдзень размаўляць паміж сабой па-беларуску. Каб лепей размаўляць, для практыкі! І я, напрыклад, няўтульна сябе адчуваю, калі не магу правільна адказаць па-беларуску. Бо гэта нават правіла добрага тону», — казаў ён «Камсамольскай праўдзе».

Ці загаворыць зараз па-беларуску ўвесь Брэсцкі гарвыканкам? Чакаем!



## Міхаіл Мяхедка

**Мінчанін Мяхедка паспрабаваў патрапіць на прыём да старшыні Вярхоўнага суда. А вось міліцыя расцаніла гэтае дзеянне як «несанкцыянаванае масавае мерапрыемства»!**

Мяхедка 13 кастрычніка быў затрыманы супрацоўнікамі аховы ў памяшканні суда і дастаўлены ў суд Ленінскага раёна Мінска. Яго звінавацілі ва ўдзеле ў несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве (арт 23.34 КаАП РБ) і пакаралі штрафам у памеры 15 базавых велічынь. Справу разглядаў суддзя Аляксей Камушкін.

Супрацьстаянне спадара Мяхедкі і чыноўнікаў цягнецца досыць доўга: Мяхедка жадае аднавіць сваё канстытуцыйнае права на зварот да прэзідэнта Беларусі. Мяхедка жадае звярнуцца да Лукашэнкі, каб той даручыў Канстытуцыйнаму суду праверку правапрымяняльнай практыкі судоў, — бо грамадзяне на такі зварот права не маюць. Прэзідэнцкая ж адміністрацыя стварае бар'еры на шляху грамадзяніна, тым часам як старшыня КС раіць ім звяртацца да кіраўніка дзяржавы як да аднаго з суб'ектаў, упаўнаважаных на такія дзеянні.

На жаль, і Вярхоўны суд у гэтай сітуацыі распісаўся ў поўным бяссіллі, і нават не можа абараніць грамадзяніна ад брутальнага пераследу сілавікоў.

Цікава, як адзін чалавек мог правесці «масавае мерапрыемства»? Зараз у Мяхедкі ёсць і іншая нагода звярнуцца ў Вярхоўны суд, калі Мінскі гарадскі суд не адменіць гэты відавочна абсурдны вырак.



## Георгій Кандрацьеў

**Перад матчамі з Украінай і Славакіяй трэнер беларускай зборнай Георгій Кандрацьеў заявіў, што сыдзе ў адстаўку, калі па іх выніках каманда не зможа змагацца за пападанне ў фінальную частку Еўра–2016.**

Беларусь прайграла Украіне (0:2) і Славакіі (1:3). Беларуская зборная мае адзін бал і займае перадапошняе месца ў сваёй групе.

Кандрацьеў, як і абяцаў, падаў у адстаўку. 13 кастрычніка Беларуская федэрацыя футбола і галоўны трэнер нацыянальнай зборнай Георгій Кандрацьеў скасавалі кантракт «па пагадненні бакоў», паведаміла прэс-служба БФФ па выніках сустрэчы трэнера са старшынёй федэрацыі Сяргеем Румасам.

2 кастрычніка на сустрэчы са старшынёй БФФ Сяргеем Румасам Аляксандр Лукашэнка раскрытыкаваў зборную: «Калі казаць адкрыта, акрамя апошняй гульні БАТЭ (перамога над іспанскім «Атлетыка» ў Лізе чэмпіёнаў), няма на што глядзець і няма чаму радавацца, асабліва зборнай. Трэба сур'ёзную ўвагу звярнуць на нашу нацыянальную зборную, таму што гэта вельмі дрэнны сігнал як для кіраўніка федэрацыі, так і для федэрацыі ў цэлым».

Кандрацьеў кіраваў нацыянальнай камандай з 8 снежня 2011 года. У адборачным цыкле чэмпіянату свету–2014 зборная заняла апошняе месца ў сваёй групе. Хто будзе рыхтаваць каманду да адборачнага матчу супраць Іспаніі 15 лістапада, пакуль не вядома.

# Рэпартаж з данбаскага фронту:



Зміцер ГАЛКО



# «Кібаргі» — хлопцы з суседняга двара

**Гэтым разам мы едзем з валанцёрскай дапамогай у месца баявых дзеянняў — раён Дэбальцава, шчыльна аточаны войскамі праціўніка. Тут перамір'е заўжды было папяровай умоўнасцю. Штодзённыя артабстрэлы і сутычкі, штодзённыя весткі пра параненых і забітых, далёка не ўсе з якіх трапляюць у навіны, замінаваныя палі і пасадкі, дыверсіі і пасткі, гераізм і подласць.**

## Ці баюся я артабстрэлаў? — Баюся

Андрэй Мізан і Аляксандр Агаркаў курсіруюць паміж родным Крывым Рогам і перадавой кожны тыдзень. Сабралі патрэбныя рэчы і паехалі, сабралі — паехалі. Ноч пераначуюць у лагеры і дадому, зноў рэчы збіраць. Апроч валанцёрскай дапамогі, возяць пасылкі салдатам ад родных. Назад вязуць тое, што трэба адрамантаваць (прымус, бензапілу і г.д.) ці перадаць дамоў, падвозяць салдат, якія едуць на пабыўку.

Андрэй — у мінулым начальнік аддзела продажаў украінскага прадстаўніцтва кампаніі D-Link, сусветнага вытворцы сеткавага і тэлекамунікацыйнага абсталявання. Кінуў працу і заняўся дапамогай вайскоўцам пасля таго, як у луганскім аэрапорце загінуў ягоны сябра, колішні аднапалчанін. Ён ляцеў у тым самым сумнавядомым Іл–76. Напярэдадні яны гутарылі, той радаваўся, што нарэшце іх чакае «сур'ёзная справа» пад Луганскам, клікаў Андрэя, колішняга дэсантніка, далучацца да іх. Андрэй кажа, што цалкам мог апынуцца ў тым збітым самалёце, сябра яго ўгаварыў, заставалася толькі дарабіць сякія-такія справы.

Андрэй лічыць, што пажыўным булёнам для вайны служыць абыякавасць многіх з яго суграмадзянаў. І толку не будзе да таго часу, пакуль бяда не закране кожнага асабіста.

Аляксандр — святар, хаця баксёрскае мінулае наклала на яго глыбокі адбітак, ён і зараз можа не толькі суцешыць словам няшчаснага, але і суцішыць кулаком якога-небудзь нягодніка. Патомны «бандэравец», дзяды ваявалі ў УПА. І сам, кажа, ужо ў 1991 годзе, падчас путчу ў Маскве, сядзеў разам з паплечнікамі з УНА-УНСО ў лесе, рыхтаваўся да партызанскай вайны. Тады ён толькі скончыў школу.

На прыборнай панэлі ў яго два сцяжкі — дзяржаўны і чырвона-чорны, які ён называе «сцягам вайсковага супраціву». Ён жа, па словах Аляксандра, служыць эфектыўным сродкам для таго, каб «адпуджваць нахабных дашнікаў». Сам бачыў — працуе.

«Ці баюся я артабстрэлаў? Баюся. Аднойчы на ўсіх парах давялося праскочыць участак зялёнкі (дарогі, абапал якой ёсць зялёныя насаджэнні — аўт.), які энергічна абстрэльваўся, дык я потым з гадзіну не мог стырно з рук выпусціць, намёртва ўчапіўся. Калі абстраляюць лагер, дзе мы заначуем, мабыць, я ў майтках выскачу ў поле, буду мітусіцца, на карачках поўзаць і шукаць, у якую б шчыліну забіцца. Гэта нармальна. Ненармальна не дапамагаць хлопцам, якія трымаюць фронт ад распаўзання… Затое мае дзеці цяпер ад гаджэтаў і гульняў адарваліся, ім з бацькам хочацца паразмаўляць, ужо пра нейкія іншыя каштоўнасці разважаюць», — кажа Аляксандр.

## На вайну хочацца вярнуцца

Аляксандр дадае, што на перадавую, нягледзячы на смяротную рызыку, яго цяпер ужо цягне, хочацца хутчэй туды вярнуцца. І я разумею яго. Так, не сорамна прызнацца, што пад артабстрэлам вельмі страшна. Я бачыў, з якім стоеным болем углядаюцца ў неба салдаты, пачуўшы кананаду «Градаў» удалечыні. Дарэчы, вельмі цяжка зразумець па ўскосных прыкметах, прыляціць яно да цябе ці не прыляціць. Канчаткова ясна будзе толькі ў той момант, калі снарад упадзе дзе-небудзь побач. Вось тады бяжы і хавайся. Калі паспееш.

У дарозе пад абстрэлам мне хацелася зрабіцца маленькім-маленькім і ўціснуцца ў падлогу. Выкід адрэналіну такі, што здаецца, быццам зараз душа з цела сама выскачыць і паляціць са свістам. Ніякае «Супер-8» такіх уражанняў не дасць.

Але вярнуцца сюды хочацца зусім не для таго, каб паказытаць нервы. Вайна — гэта не крута, а балюча, страшна і цяжка. Захапляцца ёй могуць толькі маньякі кшталту Гіркіна. Сярод украінскіх салдатаў, якіх я сустракаў, камусьці лягчэй было, камусьці цяжэй, хтосьці ўсміхаўся, а хтосьці ўжо перастаў, але нават з выгляду сапраўдныя ваўкі вайны не атрымлівалі тут асалоды.

Чаму ж хочацца вярнуцца? Я сам сабе не магу да канца растлумачыць гэтую магію. Магчыма, таму, што я дасюль не сустракаў калектываў, дзе ставіліся б адзін да аднаго настолькі роўна і паважліва. Нават з «акулярыка», які ў вольны ад баявых заданняў час сядзеў і чытаў усё, што траплялася пад руку, хоць інструкцыю да мінамёту, хоць жаночы раман, замест таго, каб зрабіць нешта па гаспадарцы, кпілі вельмі бяскрыўдна. Нават на тых, хто не мог прачнуцца ўначы, каб падкінуць дроўцаў у печ, па-сапраўднаму не злаваліся. Хаця тэмпература такая, што вада ранкам у рукамыйніку ператвараецца ў лёд. Калі ўначы не падкінуць дроўцаў, холад у намёце стаіць страшны. Тых, хто вяртаецца з баявога задання (яно можа доўжыцца дзень-два, а можа і месяц), сустракаюць воклічамі «ўра!» і кідаюцца іх абдымаць. Я ў намёце разведроты правёў усяго дзве ночы, нічога асаблівага для іх не зрабіў, толькі дапамог прыцягнуць шыфер для альтанкі і падарыў «акулярыку» зборнік апавяданняў. Не богведама што. Развіталіся ж са мной так, быццам мы агонь і ваду разам прайшлі.

Позна вечарам байцы разыходзяцца ў розныя бакі з тэлефонамі, каб паразмаўляць з бацькамі, дзецьмі, жонкамі. Размаўляюць ціха і пяшчотна. Некаторыя адсюль прымудраюцца нават урокі дзецям дапамагаць рабіць. Увогуле, пра дзяцей тут часта гавораць. Значна часцей, чым на рыбалцы ці ў лазні.

## «Яны закоўваюць іх у ланцугі і вядуць на міны»

Мы сядзім вечарам у альтанцы пад акампанемент «Градаў» з боку праціўніка. Хлопец па мянушцы «Радыстка Кэт», які ніколі не выпускае з рук якога-небудзь прыбору сувязі — калі не праслухоўвае перамовы сепаратыстаў, дык важдаецца з уласным тэлефонам, уключыўшы радыё ДНР.

Паміж выпускамі навінаў там грае музыка. Раз-пораз якія-небудзь дзікія песні кшталту «Рускага маршу» Жанны Бічэўскай, але ў асноўным стары рускі рок. Усім вядомыя песні. Хто зброю чысціць, хто з домам размаўляе, хто вячэру даядае, а хто падпявае Нікольскаму: «Мой друг художник и поэт в дождливый вечер на стекле / Мою любовь нарисовал, открыв мне чудо на земле…» Калі б я быў рэжысёрам, наступным кадрам даў бы карцінку з таго боку фронту, дзе хтосьці гэтак жа задуменна падпяваў бы Нікольскаму, пагладжваючы аўтамат. Хаця, магчыма, там якраз слухаюць украінскае радыё.

Пачынаецца выпуск навінаў, ранейшая галюцынаторная ідылія развейваецца. Нейкая цётка скрыпучым голасам расказвае, што ўкраінскія вайскоўцы спрэс і ўсюды парушаюць перамір'е, а яшчэ кагосьці (я недачуў, мабыць, рускамоўных жыхароў Данбасу) «закоўваюць у ланцугі і гоняць на мінныя палі». У Алега, крыварожскага завадчаніна, які прыехаў разам з намі на перадавую, каб сваімі вачыма ўбачыць, што тут да чаго, і ўпершыню пачуў прапаганду ДНР, лезуць вочы на лоб. Астатнія салдаты або сумна ўсміхаюцца, або ніяк не рэагуюць. Хтосьці жартуе, маўляў, а ты думаў, да нармальных людзей трапіў? Не, браце, тут спрэс адны ваўкалакі. І ты ваўкалакам станеш, пабыўшы з намі.

## Дайце нам пахаваць нашых братоў!

Хлопцы не настроеныя размаўляць пра вайну, ім хочацца хаця б тут, у лагеры, на які момант забыць пра яе. Адзінае, аб чым просяць мяне расказаць чытачам:

«Скажы, што гэтыя паскуды не аддаюць нам нашых палеглых братоў! Дайце нам іх пахаваць, нелюдзі, чорт вас бяры!»

Паводле словаў хлопцаў з разведроты асобнай 17-й танкавай брыгады (яе байцы стаяць у тым ліку ў данецкім аэрапорце), спачатку камандзір паслаў іх туды, куды не павінен быў пасылаць, прынамсі яны ў гэтым упэўненыя. Панеслі страты, загінуў,

апроч іншых, бацька шасцярых дзяцей. Яны патрабавалі ад камандавання дамагчыся, каб целы загінулых вярнулі. Але камандзіры «марозіліся». Хлопцы самі пачалі шукаць магчымасці вярнуць пабрацімаў, пайшлі на перамовы з вядомымі стаханаўскімі казакамі. Выйсці на іх дапамог нейкі святар. У месцы, куды ён адправіў хлопцаў, іх чакала пастка. Да загінулых, целы якіх яны спрабавалі вярнуць, дадаліся іншыя... Салдаты не вытрымалі, штурмавалі са зброяй уласны штаб, патрабавалі замяніць камандзіра. Зрэшты, скончылася ўсё тым, што іх роту раскідалі па розных баявых пазіцыях, самых небяспечных. Целы ж дасюль застаюцца недзе там, у палях.

У дзень нашага прыезду хлопцы якраз затрымалі разведчыка з таго боку. Ніхто «выпадкова» не прастрэліў яму каленку, не сказаў ніякіх гадасцяў жонцы, якая тэлефанавала яму на мабільны. «Яны звычайна нашым жонкам тэлефануюць і гавораць, каб забіралі труп, бо ўжо смярдзіць так, што няма чым дыхаць», — гаворыць адзін з байцоў. Затрымалі і перадалі праваахоўнікам.

Не, там не ва ўсіх жалезная вытрымка. Адзін усё ж зляцеў са шпулек. Ігар, змрочны мужык сярэдняга ўзросту, шахцёр, з турэмным тэрмінам за плячыма, які апынуўся ў разведроце з не зусім зразумелай прычыны і стараніўся ўсіх, пабіўся з Васілём, такім сабе Партосам, гаваркім і вясёлым жыццялюбам. У дадатак выпадкова падбіўшы вока Дзеду Панасу, ён жа Санта, — найстарэйшаму байцу ў разведроце.

Пачалося ўсё з доўгага маналога Ігара пра загінулых і пастку, ён хваліў сябе, лаяўся на астатніх, кляў усё на свеце, чапляўся да Аляксандра, маўляў, той не быў пад «Градамі», дык хай маўчыць. Урэшце пачаў абвінавачваць без разбору, каго ў чым. А пасля бойкі кінуўся ў намёт, вырваў чаку з гранаты і пагражаў усіх узарваць. Улічваючы, што намёт нашпігаваны боепрыпасамі пад завязку, хлопцы ледзь не ляжаць на процітанкавых мінах замест падушак, скончыцца ўсё магло вельмі сумна.

Хлопцы хадзілі да камандзіра з патрабаваннем забраць таго Ігара да сябе ў намёт, калі ён лічыць мэтазгодным знаходжанне такога чалавека на фронце. Не забраў. Але ранкам самому Ігару ніхто нават не нагадваў пра яго вячэрнія подзвігі.

## Тут расцяжак няма

Падвезці з перадавой дадому Аляксандр узяў двух хлопцаў-артылерыстаў. Яны доўга маўчалі, занураныя ў свае думкі. Мо праз гадзіну, калі не болей, адзін з іх раптам сказаў: «Неяк усё гэта... дзіка. Едзем, у акно глядзім, музыку слухаем». І зноў надоўга змоўклі.

Спыняемся для таго, каб справіць малую патрэбу і пакурыць, хлопцы з машыны выходзяць і туляцца да яе, не адыходзяць. Андрэй ім гаворыць: «Вы чаго, тут можна ў зялёнку спакойна хадзіць, расцяжак няма, вакол мір, выехалі ўжо з вайны». Калі ж ззаду на дарозе з'яўляюцца машыны, па звычцы дадае: «Увага, рух справа!»

Я і сам ужо паспеў набрацца спецыфічных звычак. Калі Андрэю трэба было схадзіць у аптэку ў Краснаармейску, горадзе пад украінскім кантролем, але, скажам так, не вельмі добранадзейным, ён запытаўся, ці не сходзіць хто-небудзь разам з ім — для падстрахоўкі. «Ты гранату з сабой вазьмі», — кажу яму. Бо так рабілі хлопцы на перадавой, калі хадзілі лячыць зубы ў мястэчка. Проста ў кішэні клалі гранаты, называючы гэта «набраць з сабой груш». Іншай зброі не бралі, каб мясцовых лішні раз не нерваваць.

Аляксандр заўважае, што не варта так жартаваць. СБУ, кажа, не дрэмле. Сепаратыстаў ім адлоўліваць не вельмі хочацца, бо яны, халера, небяспечныя. А вось салдатаў, якія вяртаюцца з Данбасу, пільнуюць, каб зброю дадому не везлі.

## «Чуеш, я жывы, я прыехаў!»

Амаль да самага канца дарогі мы не ведалі, па якой уважлівай прычыне нашых спадарожнікаў адпусцілі дадому. Бо яны толькі месяц дома не былі, а некаторыя дому па пяць месяцаў не бачаць. Потым старэйшы з іх, хлопец з вёскі, сказаў паўшэптам, што ў ягонай маці дыягнаставалі рак, кладуць на доўгае лячэнне. Маці не магла выйсці сустрэць яго на дарозе, а жонка з дачкой заўважылі здалёк, пабеглі насустрач, не зважаючы на аўтамабілі. Жонка кінулася на шыю, дачка — абняла ногі.

Маладзейшы (хаця таксама з маршчыністым тварам старога) Сяргей ехаў да Крывога Рогу. Калі мы ўехалі ў горад, па радыё зайграла нейкая вясёлая песня. Салдат падскочыў і пачаў прытанцоўваць, балазе габарыты машыны дазвалялі. Патанцаваўшы, ён упаў каленамі на падлогу, як робяць футбалісты, забіўшы гол, узняў рукі ўгору і закрычаў: «А-а-а, Крыўбас, я дома, дома!»

«Ведаеце, што я зраблю першым чынам, калі дадому зайду? Я нахілюся да жончынага жывата, прыкладуся да яго вуснамі і ціхенька скажу: чуеш, я жывы, я прыехаў. Чаго вы думаеце мяне адпусцілі, сынок мяне чакае, не сёння-заўтра на свет з'явіцца. Жывы я, прыехаў! Потым вухам да жывата прыкладуся — паслухаю, што ён мне адкажа... Мне сябры тэлефануюць, пытаюцца, ну як яно там, на вайне, многіх паклаў? Я ім заўсёды адказваю — і не пытайцеся, не трэба яно вам, хопіць таго, што я ўсё гэта перажыў. Пра вайну зусім размаўляць не хачу», — хлопца, які прамаўчаў амаль усю дарогу, нібы прарвала.

Працягласць Крывога Рогу складае больш за 100 кіламетраў, развозіць усіх пасажыраў па дамах Аляксандру складана. Мы спыніліся на адной з ускраінаў, каб перасадзіць салдата ў таксі. І засталіся з ім дачакацца машыны — для падстрахоўкі. Патэлефанавалі, кажам, салдацік з вайны вярнуўся, у яго жонка вось-вось народзіць, прыязджайце хутчэй. Дзесяць хвілін няма, дваццаць, паўгадзіны. Няма машыны.

«Ды што ж такое, мы вас у чорны спіс занясем, вы нейкае сепар-таксі, вамі ніхто карыстацца не будзе!» — гарачыцца Андрэй.

Потым, калі мы салдаціка нарэшце пасадзілі ў таксі, Аляксандр гаворыць, што хлопец, мабыць, яшчэ перажыве шок, сутыкнуўшыся з абыякавасцю. Многія жывуць сваім жыццём, ім да вайны справы няма, яны не разумеюць, які подзвіг ён здзейсніў.

## Хлопцы з суседняга двара

Калі я быў на перадавой, з дому мне прыходзілі паведамленні, каб я хутчэй адтуль ад'язджаў, бо патрэбны сям'і жывы і здаровы, дома і без таго шмат праблемаў, навошта гэты авантурызм і неапраўданая рызыка. Я падумаў, што сапраўды не маю права знаходзіцца ў месцы, навіны адкуль будуць пастаянна прымушаць сціскацца сэрцы маіх блізкіх. Ну каму якая будзе карысць, калі са мной нешта здарыцца. Мне ж не цяжка — прыхапіў заплечнік, развітаўся з хлопцамі, сеў у машыну і паехаў. Не трэба, каб памірала маці або мелася нарадзіць жонка. Колькі гадзін — і твая сям'я ўздыхае з палёгкай, бо табе ўжо нічога не пагражае.

У мірнай Днепрапятроўскай вобласці мне зрабілася сорамна за сваё «ільготнае» становішча, за лёгкасць, з якой я з'ехаў з перадавой. Па ўсёй Украіне, у тысячах сем'яў, дзе сочаць за навінамі з Данбасу, сціскаюцца сэрцы, рукі цягнуцца да тэлефону і пачынаюць трымцець, калі ніхто не адказвае. А калі адказа — бессэнсоўна прасіць яго, каб хутчэй вяртаўся дадому, бо ўжо няма сілаў трываць такую душэўную напругу. Толькі душу яму ірваць. Бо ён не можа прыхапіць заплечнік, развітацца з таварышамі, сесці ў машыну і праз колькі гадзін быць дома.

Не таму, што выкаваны са сталі з галавы да пятаў ці мае ад нараджэння дадатковыя «скілы» і «фічы». Не праз падвышаны ўзровень авантурнасці. У яго мірная прафесія, сям'я, непадрыхтаваная да таго, каб у нейкі момант атрымаць пахавальны ліст. Ён не народжаны забіваць ці быць забітым, ён такі самы, як і ты, хлопец з суседняга двара. У «кібарга» ён мусіў пераатварыцца, каб вярнуцца дамоў, і дома ў яго быў мір. Не кожны змог.


На Данбаскім фронце

Алег, крыварожскі завадчанін, які прыехаў разам з намі на перадавую, каб сваімі вачыма ўбачыць, што тут да чаго, як зачараваны паўтараў: «Ну ні фіга сабе, слухай, тут звычайныя хлопцы, сядзім, нібыта на загарадным пікніку, а вакол вайна, смерць... Нешта неверагоднае».

«Яны радуюцца, як дзеці, калі да іх прыязджаеш. Нават не падарункам, проста тваёму прыезду. Што пра іх не забываюцца», — кажа Аляксандр Агаркаў. І гэта сапраўды так.

Напаўжартам хлопцы клікалі мяне заставацца з імі, разам на баявыя заданні хадзіць. Нічога, маўляў, што непадрыхтаваны, мы ўсе тут такія, навучышся. Улезеш у нашу шкуру, пабачыш і перажывеш тое, што мала хто з журналістаў бачыць і перажывае. Яны не строілі кпіны і не кідалі выклік, які я не мог бы прыняць. Ім было насамрэч прыемна, што іхным жыццём шчыра цікавяцца, хаця б часткова дзеляць з імі цяжар і рызыку, і хацелася адцягнуць момант, калі яны зноў застануцца сам-насам.

Варта, каб такі момант не цягнуўся доўга. Яны застаюцца тут, на перадавой, бо іншыя застаюцца дома. Тым, хто мае такую перавагу, ганебна выкарыстоўваць яе дзеля таго, каб жыць так, нібыта ніякай вайны няма.

Мой калега, журналіст Андрэй Аляксандраў, звярнуўся ў фэйсбуку да сваіх сяброў з пытаннем, ці сочаць яны па-ранейшаму за падзеямі ва Украіне. Сярод розных адказаў траплялiся і такія: «закалябала гэтая вайна», «асаблівай цікавасці ўжо няма», «сам чорт не разбярэ, што там адбываецца», «паўплываць ніяк не магу, таму не сачу».

Пасля паездкі на перадавую, дзе вайна ўсіх задзяўбла значна больш, чуць гэта асабліва прыкра. Адбываецца тое, што адбывацца не павінна. І нас гэта непасрэдна тычыцца. Нават калі не казаць пра «нашу і вашу свабоду». Тут як не пачнеш з салдатамі размаўляць, абавязкова высветліцца, што ў іх сваякі ў Беларусі, былыя аднапалчане, аднакурснікі, сябры, успаміны аб нашай краіне.

Вайна зусім-зусім блізка. Не адчуваць яе гэтак жа небяспечна, як не адчуваць, што ў цябе загарэлася нага, якая ад галавы хоць і далёка, але не настолькі, каб можна было яе ігнараваць.

***P.S:*** *У Сяргея, артылерыста, якога адпусцілі на пабыўку да цяжарнай жонкі, нарадзіўся сын. Мы віншуем шчаслівага бацьку і яго сям'ю і спадзяемся, што Сяргею ніколі не прыйдзецца адпраўляць сына на вайну...*


Звычайныя кібаргі


Крайні злева — Аляксандр Агаркаў, крайні справа — Андрэй Мізан, унізе ў акулярах — Алег, крываросжкі завадчанін


Справа і злева — хлопцы-артылерысты, якія паехалі дадому

TV

## 24 КАСТРЫЧНІКА, ПЯТНІЦА

**1 БЕЛАРУСЬ**

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00 (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.55** Навіны.
**07.05, 08.05** Навіны эканомікі.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**11.00, 13.00, 16.00** 90 секунд.
**11.05** Меладрама «Доўгі шлях дадому» (Расія).
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы-2».
**13.05** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Серыял «Такое звычайнае жыццё».
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёну.
**15.25** Камедыйны серыял «Маша ў законе! -2» (Расія). Заключная серыя.
**16.30** Серыял «Сямейныя меладрамы-2».
**17.20** «Terra incognita». Беларусь невядомая.
**17.55** Нашы.
**18.10** Тэлефільм цыклу «Вялікі рэпартаж».
**19.20** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**19.55** Меладрама «Доўгі шлях дадому».
**21.00** Панарама.
**21.45** «Затрымай мяне». Канцэртная праграма гурта «Аўра».
**23.20** «Беларусь у развіцці». Цыкл дакументальных фільмаў.
**00.10** Дзень спорту.
**00.25** Камедыйны серыял «Маша ў законе! -2» (Расія). Заключная серыя.

**НТ**

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.55** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** «Вучыцца жыць».
**14.45** «Час пакажа».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** Мастацкі фільм «Вось я які».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Чакай мяне Беларусь».
**18.55** «Поле цудаў».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Чорна-белае».
**22.10** «Голас».
**00.15** «Вячэрні Мінск».
**01.20** Начныя навіны.

**СТВ**

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Спяваючыя гарады». Дзённік. Гомельская вобласць.
**09.05** «Добры дзень, доктар».
**09.40** «Далёкія сваякі».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.35** «Не хлусі мне!».
**13.50** «Спяваючыя гарады». Дзённік. Гомельская вобласць.
**13.55** Фільм «Салдат» (Вялікабрытанія - ЗША, 1998 г.).
**15.40** «Татальная распрадаж».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.35** «Такі лёс».
**20.00** «Сталічны падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Спяваючыя гарады». Дзённік. Гомельская вобласць.
**20.20** Фільм «Осцін Паўэрс: Голдмембер» (ЗША, 2002 г.).
**22.00** СТВ прадстаўляе: вячэрні шоу «На тым жа месцы ў той жа час».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** СТВ прадстаўляе: вячэрні шоу «На тым жа месцы ў той жа час». Працяг.
**23.50** «Вялікая гульня». Покер.
**00.35** Фільм «Ліван» (Ізраіль-Францыя-Ліван-Германія, 2009 г.).

**2 БЕЛАРУСЬ**

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Меладраматычны серыял «Сашка».
**10.15** Капейка ў капейку.
**10.55** Серыял «Прыгоды прынца Фларызеля» (СССР). 2-я, 3-я серыі.
**13.45** Пад грыфам «Вядомыя».
**14.20** Я хачу гэта ўбачыць!
**14.55** Камедыйны серыял «Універ» (Расія).
**16.05** Вось дык так!
**16.45** Меладраматычны серыял «Сашка».
**17.55** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна). 2-я серыя.
**18.55** Рамантычны трылер «Змярканне. Сага. Залак: частка 1-я» (ЗША).
**21.00** «На прыродзе».
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** Кено.
**21.30** «Бітва экстрасэнсаў». Містычнае рэаліці-шоў (Расія).
**23.05** Рэпарцёр.
**00.00** Сямейная драма «Светлячкі ў садзе» (ЗША).

**3 БЕЛАРУСЬ**

**07.20** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!» Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.15** «Капітанская дачка». Мастацкі фільм.
**09.55** «Навукаманія». Беларускія біягенетычныя тэхналогіі.
**10.20** «Мёртвыя душы». Мастацкі фільм. 5-я серыя, заключная.
**11.50** «Персона». Раман Вікцюк.
**12.10** «Калейдаскоп».
**12.25** «Аўтограф». Ансамбль народнай песні «Жывіца» Палаца культуры Мазырскага нафтаперапрацоўчага завода.
**12.50** «Дванаццаць месяцаў». Мультфільм.
**13.40** «Спрадвечнае». Абрад «Масленка».
**14.00** «Рэчавы доказ». Чугунны сведка. Дакументальны фільм пра пачатак валадарання Пятра І.
**14.25** «Рэчавы доказ». Цень лёсу. Дакументальны фільм пра праблематыку айчыннай археалогіі.
**14.50** «Рэчавы доказ». Шкляны жарт. Дакументальны фільм пра пачатак рускай шкляной справы.
**15.20** «Рэчавы доказ». Палаш Ізмайлава. Дакументальны фільм пра гісторыю мяча, які належаў разанскаму дваранiну Івану Васільевічу Ізмайлаву.
**15.50** Музей кнігі Нацыянальнай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь. Дакументальны фільм.
**16.15** Квенцін Таранціна. Прафесійны кінахуліган. Дакументальны фільм пра творчасць культавага амерыканскага рэжысёра.
**16.55** «Выкрасці Бельмандо». Мастацкі фільм. 1-я серыя.
**17.45** Канцэрт «Прысвячэнне майстру». Беларускаму дзяржаўнаму ансамблю «Песняры» - 45!
**18.55** «Калейдаскоп».
**19.15** «Капабланка». Мастацкі фільм.
**20.45** Калыханка.
**21.00** Сусветнае кіно. «Смяротныя думкі».
**22.35** «Камертон». Музычны і тэатральны крытык Ларыса Барыкіна.
**23.05** «Калейдаскоп».

**5 БЕЛАРУСЬ**

**07.00** PRO спорт. Навіны.
**08.00** Авертайм.
**08.30** Тэніс. Турнір ВТА. Выніковы турнір. Прамая трансляцыя.
**12.35** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. «Дынама» (Мінск) - «Генгам» (Францыя).
**14.30** Тэніс. Турнір ВТА. Выніковы турнір. Прамая трансляцыя.
**16.25** Хакей. КХЛ. «Югра» (Ханты-Мансійск) - «Дынама» (Мінск). Прамая трансляцыя.
**18.55** Хакей. Чэмпіянат Беларусі. Прамая трансляцыя.
**21.10** Еўрапейскі покерны тур.
**22.05** Хакей. КХЛ. Югра (Ханты-Мансійск) - Дынама (Мінск).
**00.00** Рэаліці-шоу «Mix Fight. Новыя гарызонты».

**БЕЛСАТ tv**

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**07.25** Два на два (тэледыскусія): Рыгор Кастусёў і Андрэй Дзмітрыеў.
**08.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.30** Аб'ектыў.
**08.50** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**10.15** Рэпартэр.
**10.45** Відзьмо-невідзьмо.
**11.15** «Норд-Ост. Тэатр смерці», дак. фільм, 2003 г., Польшча.
**12.30** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**13.00** Два на два (тэледыскусія): Рыгор Кастусёў і Андрэй Дзмітрыеў.
**13.30** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**14.00** Аб'ектыў.
**14.20** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**15.50** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**16.15** Відзьмо-невідзьмо.
**16.45** «Норд-Ост. Тэатр смерці», дак. фільм, 2003 г., Польшча.
**18.05** 54 % (публіцыстычная праграма): Дзеці – немужчынская справа.
**18.30** Навіны.
**18.40** Агляд медыяў.
**18.45** Каментар эксперта.
**19.55** Маю права (юрыдычная праграма).
**19.20** Моўнік (лінгвістычная праграма): Бацькаў, сынаў, матчын, даччын.
**19.30** Навіны.
**19.35** Свет.
**19.50** Агляд падзеяў культуры.
**20.00** Навіны.
**20.10** Агляд медыяў.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.30** Навіны.
**20.35** Гарачы каментар.
**20.50** Дэвайс.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**21.45** ПраСвет.
**22.20** «Закладнікі Данбасу», рэпартаж, 2014 г., Польшча.
**22.50** «Я люблю дэмакратыю: Турцыя», дак. фільм, 2012 г., Францыя.
**23.45** «Хітрыкі», маст. фільм, 2007 г., Польшча.
**01.20** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**01.45** Маю права (юрыдычная праграма).
**02.10** Моўнік (лінгвістычная праграма): Бацькаў, сынаў, матчын, даччын.
**02.20** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**02.50** Аб'ектыў.
**03.10** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**04.35** ПраСвет.

## 25 КАСТРЫЧНІКА, СУБОТА

**1 БЕЛАРУСЬ**

**06.50** Існасць.
**07.15** Меладрама «Каханне і трохі перцу» (Расія-Украіна).
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Клуб рэдактараў.
**09.45** Камедыйны серыял «Сваты-6».
**10.55** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**11.25** Кулінарная дыпламатыя.
**12.10** Дача.
**12.50** «Здароўе». Ток-шоў.
**13.30** БеларусьLIFE.
**13.55** Дак. цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.30** «Беларусь у развіцці». Цыкл дакументальных фільмаў.
**16.00** «Вялікая розніца». Парадыйнае шоў (Расія).
**17.15** Меладрама «Вецер у твар» (Расія). 1-я - 4-я серыі.
**21.00** Панарама.
**21.40** Камедыя «Карусель» (Расія).
**23.35** Камедыйны серыял «Сваты-6».
**00.45** Дзень спорту.
**00.55** «Вялікая розніца». Парадыйнае шоў (Расія).

**НТ**

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі».
**09.20** «Здароўе».
**10.25** «Смак».
**11.05** «Ідэальны рамонт».
**12.05** «Разумніцы і разумнікі».
**12.50** «Бацькоў ў школу!».
**13.45** «У наш час».
**15.15** Насмяшы коміка.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Вялікія гонкі».
**17.45** «100 мільёнаў».
**18.45** «Сёння ўвечары».
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** АНТ прадстаўляе: «Хачу да Меладзе».
**23.05** Што? Дзе? Калі ?
**00.40** Маст. фільм «Галівуд для пачаткоўцаў».

**СТВ**

**06.00** «Студэнты-2». Серыял.
**07.35** «Анфас».
**07.50** Фільм «Осцін Паўэрс: Голдмембер». ЗША, 2002г.
**09.35** «Спяваючыя гарады». Дзённік. Гомельская вобласць.
**09.40** «Чыстая праца».
**10.35** «Далёкія сваякі».
**10.55** «Гэта мой дом».
**11.30** «Мінск і мінчане».
**12.05** «Прыгоды дылетанта».
**12.40** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**13.40** «Спяваючыя гарады». Дзённік. Гомельская вобласць.
**13.45** Фільм «Памылка рэзідэнта» (СССР, 1968 г.). 1-я серыя.
**15.15** «Ваенная таямніца».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.35** «Дзіўная справа».
**18.25** СТВ прадстаўляе: інтэлект-шоу «Разумней не прыдумаеш».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** СТВ прадстаўляе: «Спяваючыя гарады». Кастынг-шоў. Гомельская вобласць.
**21.55** «Вялікія таямніцы».
**23.00** «Зорны рынг. Бітва хітоў».
**00.15** Фільм «Забіраючы жыцці» (ЗША - Аўстралія, 2004 г.).
**01.55** «Глядзець усім!».

**2 БЕЛАРУСЬ**

**07.05** Мастацкі фільм «На залатым ганку сядзелі» (СССР).
**08.25** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**09.40** Беларуская кухня.
**10.20** Тэлебарометр.
**10.25** Капейка ў капейку.
**11.00** Серыял «Універ. Новы інтэрнат».
**12.35** «Бітва экстрасэнсаў». Містычнае рэаліці-шоў (Расія).
**14.10** Вось дык так!
**14.45** Рамантычная камедыя «Лепш не бывае» (ЗША).
**17.15** «Comedy woman». Гумарыстычная шоу-праграма (Расія).
**18.20** Ікра.
**19.15** Ваша лато.
**19.55** Латарэя «Пяцёрачка».
**20.05** Пад грыфам «Вядомыя».
**20.40** Кіпень.
**21.00** Кено.
**21.10** Тэлебарометр.
**21.15** «На прыродзе».
**21.30** Серыял «Універ. Новы інтэрнат».
**23.05** Камедыйны баявік «Дыяментавы паліцэйскі» (ЗША - Германія).
**00.45** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Агляд тура.

**3 БЕЛАРУСЬ**

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.20** «Капабланка». Мастацкі фільм.
**09.50** «Камертон». Музычны і тэатральны крытык Ларыса Барыкіна.
**10.20** «Легенды кіно». Гісторыя стварэння фільма «Чорны замак Альшанскі».
**10.35** «Чорны замак Альшанскі». Мастацкі фільм. 1-я і 2-я серыі.
**12.40** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевiктарына.
**13.10** «Калейдаскоп».
**13.25** «Кар'ера Дзімы Горына». Маст. фільм.
**15.05** «Тэкумзе». Мастацкі фільм.
**16.30** «Калейдаскоп».
**16.45** Музей Вялікай Айчыннай вайны. Часткі 1-я і 2-я.
**17.40** «Дыя@блог P.S.».
**18.10** Серыял «Робін з Шэрвуда». 3-5 серыі.
**20.45** Калыханка.
**21.20** Сусветнае кіно. «Целаахоўнік Тэс».
**22.50** «Кінарэжысёр Віктар Тураў». Дакументальны фільм.
**23.15** «Калейдаскоп».

**5 БЕЛАРУСЬ**

**06.35** PRO спорт. Навіны.
**07.35** Хакей. КХЛ. «Югра» (Ханты-Мансійск) - «Дынама» (Мінск).
**09.30** Тэніс. Турнір ВТА. Выніковы турнір. Паўфінал. Прамая трансляцыя.
**11.30** Рэаліці-шоу «Mix Fight. Новыя гарызонты».
**12.10** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Агляд тура.
**13.00** Тэніс. Турнір ВТА. Выніковы турнір. Паўфінал. Прамая трансляцыя.
**14.45** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Вэст Хэм» - «Манчэстар Сіці». Прамая трансляцыя.
**16.55** Баскетбол. Адзіная Ліга ВТБ. «Цмокі-Мінск» (Беларусь) - ВЭФ (Рыга). Прамая трансляцыя.
**18.50** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Відэачасопіс.
**19.25** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Суёнсі» - «Лестэр». Прамая трансляцыя.
**21.25** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Сандэрлэнд» - «Арсенал».
**23.20** Еўрапейскі покерны тур.

**БЕЛСАТ tv**

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**07.25** Маю права (юрыдычная праграма).
**07.50** Моўнік (лінгвістычная праграма): Бацькаў, сынаў, матчын, даччын.
**07.55** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.25** Аб'ектыў.
**08.50** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**10.15** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.50** «Між намі, буслямі», анімацыйны серыял для дзяцей.
**11.15** «Польскія казкі і паданні».
**11.30** «Лонданцы ІІ», серыял.
**12.15** «Час гонару», серыял.
**13.05** Без рэтушы: «Карная псіхіятрыя», рэпартаж, 2014 г., Беларусь.
**13.20** Два на два (тэледыскусія): Рыгор Кастусёў і Андрэй Дзмітрыеў.
**13.50** Асабісты капітал.
**14.15** ПраСвет.
**14.50** «Хітрыкі», маст. фільм, 2007 г., Польшча.
**16.25** Моўнік (лінгвістычная праграма): Так гавораць на Падляшшы.
**16.40** Рэпартэр.
**17.05** Беларусы ў Польшчы.
**17.20** «Норд-Ост. Тэатр смерці», дак. фільм, 2003 г., Польшча.
**18.40** «Mad Men. Утрапёныя-2», серыял.
**19.30** «Я люблю дэмакратыю: Турцыя», дак. фільм, 2012 г., Францыя.
**20.25** «Людскія справы» (аўтарская праграма Алеся Залеўскага).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.10** «Пашпарт для беларуса», дак. фільм, 2014 г., Беларусь.
**21.40** «Востраў Крым. Deja vu», дак. фільм, 2014 г., Украіна.
**22.15** Суботні сеанс: «Плошча Збаўцы», маст. фільм, 2010 г., Польшча.
**00.00** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**00.30** Рэмарка (культурніцкая праграма) Аляксей Ляляўскі.
**00.55** Аб'ектыў.
**01.05** ПраСвет.

TV

## 26 КАСТРЫЧНІКА, НЯДЗЕЛЯ

### 1 БЕЛАРУСЬ

**07.10** Камедыя «Карусель» (Расія).
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Камедыйны серыял «Сваты-6» (Украіна).
**10.50** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**11.25** XXL WOMAN TV. Жаночы часопіс.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**13.05** Таямніцы следства.
**13.40** Каробка перадач.
**14.15** Каб усё так geely!
**14.50, 22.15** Вялікае тэлебачанне.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Вакол планеты.
**16.20** Тэлефільм АТН цыклу «Вялікі рэпартаж».
**16.55** Я магу!
**17.15** Меладрама «Шчасце ёсць» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**21.00** Галоўны эфір.
**21.55** Навіны надвор'я.
**22.25** Меладрама «Каханне і трохі перцу» (Расія-Украіна).
**00.20** Камедыйны серыял «Сваты-6» (Украіна).

### Н

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі. Пін-код».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.40** «Фазэнда».
**11.10** АНТ прадстаўляе: Шоу-гульня «ТБ-таксі».
**11.35** «Гісторыя расійскай кухні».
**12.10** «Брэйн-рынг».
**13.10** Да Юбілею акцёра. Мікалай Карачанцаў.
**14.10** «Я люблю Беларусь».
**15.20** «Здабытак рэспублікі».
**16.00** Нашы навіны.
**16.20** Навіны спорту.
**16.20** «Здабытак рэспублікі».
**17.50** «Тэатр эстрады».
**20.00** Контуры.
**21.05** «Ледніковы перыяд».
**23.45** Мастацкі фільм «Мамы».

### ТВ

**06.10** «Студэнты-2». Серыял.
**07.45** Тэлечасопіс «Аўтапанарама».
**08.15** Фільм «Фабіа Мантале. Смяротныя гульні» (Францыя 2001 г.).
**10.00** «Вялікі сняданак».
**10.40** «Тэрыторыя памылак».
**12.30** «Добры дзень, доктар».
**13.05** «Ганна Чапман і яе мужчыны».
**14.10** Фільм «Памылка рэзідэнта» (СССР, 1968 г.). 2-я серыя.
**15.40** «Глядзець усім!».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** Канцэрт Міхаіла Задорнава.
**17.45** Тэлечасопіс «Аўтапанарама».
**18.15** СТВ прадстаўляе: вячэрні шоу «На тым жа месцы ў той жа час».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Ундзіна» (ЗША - Ірландыя, 2009 г.).
**22.40** «Прафесійны бокс». Рэйтынгавыя баі ў Мінску.
**23.50** Фільм «Трон у крыві» (Японія, 1957 г.).
**01.40** «Вялікія таямніцы».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.05** Вышэй за дах.
**07.30** Рамантычная камедыя «Лепш не бывае» (ЗША).
**10.00** Мазгавы штурм.
**10.45** Тэлебарометр.
**10.50** Камедыйны серыял «Універ. Новы інтэрнат» (Расія).
**12.00** Я хачу гэта ўбачыць!
**12.35** Іранічны дэтэктыў «Разумнік» (Расія).
**14.35** «Перазагрузка». Маладзёжнае ток-шоў.
**15.25** Рамантычны трылер «Змярканне. Сага. Золак: частка 1-я» (ЗША).
**17.30** «Comedy Баттл. Без межаў». Забаўляльная шоу-праграма (Расія).
**18.45** «Халі-галі». Скетч-шоў.
**19.15** Суперлато.
**20.05** Кіпень.
**20.25** Тэлебарометр.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** Кено.
**21.10** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Відэачасопіс.
**21.45** Камедыйны серыял «Універ. Новы інтэрнат» (Расія).
**22.55** Крымінальная драма «Д'ябал адваката» (ЗША).
**00.35** Хакей для ўсіх.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.15** Серыял. «Робін з Шэрвуда». 3-5 серыі.
**10.50** «Подых струн». Музычная праграма.
**11.30** «Наперад у мінулае».
**11.55** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**12.50** «Калейдаскоп».
**13.00** «Навукаманія». Нанатэхналогіі.
**13.35** «Кінарэжысёр Віктар Тураў». Дакументальны фільм.
**13.55** «Жыццё і творчасць Макса Лорэнца». Дакументальны фільм пра знакамітага тэнара.
**14.50** «Славянскі базар у Віцебску-2011».
**14.50** «Славянскі базар у Віцебску-2011». Канцэрт прысвечаны юбілею Дзяржаўнага акадэмічнага рускага народнага хору імя М.Пятніцкага.
**16.30** «Калейдаскоп».
**16.45** «Старыя казкі». Гісторыя стварэння мастацкага фільма «Расклад на паслязаўтра».
**17.10** «Расклад на паслязаўтра». Мастацкі фільм.
**18.35** «Культпрасвет».
**19.10** Сусветнае кіно. «Смяротныя думкі».
**20.45** Калыханка.
**21.15** «Подых струн». Эпоха Юрыя Візбара.
**22.25** «Культпрасвет».
**22.55** Е.Міровіч. «Машэка». Спектакль.
**01.15** «Калейдаскоп».

### 5 БЕЛАРУСЬ

**07.00** PRO спорт. Навіны.
**08.00** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Суёнсі» - «Лестэр».
**09.55** Баскетбол. Адзіная Ліга ВТБ. «Цмокі-Мінск» (Беларусь) - ВЭФ (Рыга).
**11.35** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Вэст Хэм» - «Манчэстар Сіці».
**13.30** Фактар сілы.
**14.00** Тэніс. Турнір ВТА. Выніковы турнір. Фінал. Прамая трансляцыя.
**16.00** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Відэачасопіс.
**16.25** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Тотэнхэм» - «Ньюкасл». Прамая трансляцыя.
**18.25** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Відэачасопіс.
**18.55** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Манчэстар Юнайтэд» - «Чэлсі». Прамая трансляцыя.
**21.00** Тэніс. Турнір ВТА. Выніковы турнір. Фінал.
**23.05** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Бэрнлі» - «Эвертан».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.10** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**07.45** «Між намі, буслямі», анімацыйны серыял для дзяцей.
**08.10** «Польскія казкі і паданні».
**08.25** Фітнес-шмітнес.
**08.45** Маю права (юрыдычная праграма).
**09.05** Два на два (тэледыскусія): Рыгор Кастусёў і Андрэй Дзмітрыеў.
**09.35** Беларусы ў Польшчы.
**09.55** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.20** «Між намі, буслямі», анімацыйны серыял для дзяцей.
**10.45** «Польскія казкі і паданні».
**11.00** «Mad Men. Утрапёныя-2», серыял.
**11.50** «Час гонару», серыял.
**12.40** «Я люблю дэмакратыю: Турцыя», дак. фільм, 2012 г., Францыя.
**13.35** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**14.05** Моўнік (лінгвістычная праграма): Так гавораць на Падляшшы.
**14.15** 54 % (публіцыстычная праграма): Дзеці – немужчынская справа.
**14.40** «Плошча Збаўцы», маст. фільм, 2010 г., Польшча.
**16.25** «Людскія справы» (аўтарская праграма Алеся Залеўскага).
**16.55** «Пашпарт для беларуса», дак. фільм, 2014 г., Беларусь.
**17.30** «Ранча», серыял.
**18.15** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.40** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Усебеларускі з'езд 1917 года.
**18.55** Эксперт (сатырычная праграма).
**19.25** Дакументальная гадзіна: «Украіна. Пункт адліку», дак. фільм, 2011 г., Украіна.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**22.00** Фільматэка майстроў: «Папросту разам», драма, 2007 г., Францыя.
**23.40** «Фальшываманетнікі. Вяртанне «Зграі», серыял.
**00.25** «Пашпарт для беларуса», дак. фільм, 2014 г., Беларусь.

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, афарміўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 3012741108019 у аддзяленні №53 9 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153 10073 9. Адрас банка: 22 0004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 22 0113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

## Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 3000 руб., аднаго месяца — 12000 руб.
**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ПАДТРЫМКУ!**
«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл: (8 029) 651-21-12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739

УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня ________
Всего ________

Кассир

# Толькі Эболы не хапала

Алег НОВІКАЎ

**Ва Украіне прэса, палітыкум і грамадства ўсё больш спекулююць наконт непазбежнага прыходу эпідэміі ліхаманкі Эбола, якая прынясе, у тым ліку, і палітычныя наступствы.**




Першым біць у набат пачаў Анатоль Грыцэнка, лідар партыі «Грамадзянская пазіцыя» (ГП), якая, дарэчы, мае нядрэнныя шанцы для праходу ў Вярхоўную Раду на выбарах 26 кастрычніка. На папулярным ток-шоў Савіка Шустэра Грыцэнка нечакана для аўдыторыі праігнараваў звыклыя тэмы люстрацыі, карупцыі і Данбаса. Ён паспрабаваў прыцягнуць увагу да праблемы ліхаманкі Эбола. Рэзюмэ спіча палітыка: каб не пусціць вірус у краіну, неабходна забяспечыць каранцінную зону ва ўсіх марскіх партах і аэрапартах. Акрамя таго, Украіне трэба вывесці сваіх міратворцаў з Ліберы і Конга, дзе бушуе гэты небяспечны вірус.

Мяркуючы па рэакцыі аўдыторыі, прамову лідара ГП не зразумелі. Адзін са спікераў нават высмеяў панікёра. Аднак хутка практычна ўсе найбуйнейшыя ўкраінскія СМІ асвяцілі праблему віруса Эбола. Безумоўна, росту цікавасці да эпідэміі спрыялі навіны: 12 кастрычніка ў польскай Лодзі, а 13 — ва Украіне шпіталізавалі людзей з падазрэннем на ліхаманку Эбола.

Перш за ўсё каментатары спрабуюць разабрацца: ці можа эпідэмія пранікнуць на Украіну і набыць буйны маштаб.

Аргументы аптымістаў: па-першае, не зразумела, як экватарыяльная эпідэмія можа распаўсюджвацца ў нашых шыротах; па-другое, ва Украіне няма прамых авіярэйсаў з краін Заходняй Афрыкі (арэал хваробы). Таксама вядома, што на самай справе вірус Эбола блукае па Афрыцы ўжо каля сарака гадоў. Шмат у чым смерці абумоўленыя адсутнасцю своечасовай медыцынскай дапамогі, нізкай дасведчанасцю і непісьменнасцю афрыканскага насельніцтва.

Довады песімістаў: інкубацыйны перыяд хваробы складае ад 2 да 21 дня. За тры тыдні чалавек можа дабрацца з Афрыкі ў любую краіну свету, нават калі туды няма прамых рэйсаў. Невядома, як украінскія лекары змогуць адрозніць ліхаманку Эбола ад іншых захворванняў, пры якіх сімптомы на ранняй стадыі вельмі падобныя — высокая тэмпература, слабасць, галаўны і мышачны боль, млоснасць?.. Наўрад ці тут дапаможа стандартнае для постсавецкіх бальніц абследаванне — агульны аналіз крыві і УЗД на апараце, набытым у мінулым стагоддзі.

Калі меркаваць па форумах, народ у большасці сапраўды дапускае прыход хваробы. Тыповы пост з украінскага сеціва: «Ва Украіне стан сістэмы аховы здароўя з'яўляецца пагрозай нацыянальнай бяспецы. Поўны калапс адказнасці за прыняцце рашэнняў, некампетэнтнасць чыноўнікаў і лекараў, адсутнасць механізмаў адваротнай сувязі (праз колькі тыдняў пасля захворвання ў Міністэрстве аховы здароўя зразумеюць: ліхаманка Эбола прыйшла?!), адсутнасць інфраструктуры для адаптацыі сістэмы аховы здароўя краіны пад новыя ўмовы... Усё гэта рэаліі. Мы памятаем сітуацыю «Цімашэнка і каранцін». Панядзелак: «Любыя мае! Азія ад нас далёка! У нас практычна няма міжнародных кантактаў! Свінячы грып нам не страшны!» Серада таго ж тыдня: «Любыя мае! Сітуацыя ва Украіне катастрафічная! Эпідэмія свінога грыпу пагражае здароўю ўкраінца! Каранцін будзе трываць адзін месяц». Я разумею, што ў такі ідыёцкі стан Цімашэнку паставілі чыноўнікі Міністэрства аховы здароўя. Але яна абавязана зрабіць чыстку ад такіх чыноўнікаў. Гэта не было зроблена. Зараз нас чакаюць такія ж запэўненні ад Парашэнкі?»

Асобная тэма: як магчымая эпідэмія можа адлюстравацца на палітычных працэсах у краіне. Наконт гэтага пытання таксама адзінай пазіцыі няма. Лагер антымайданаўцаў лічыць, што незапрошаны госць з Афрыкі стане кантрольным стрэлам у майданаўскі праект. «У мінулую грамадзянскую вайну самыя вялікія страты нанесла не вайна, а эпідэмія тыфу. У чырвоных ён скасіў 11-ю армію Паўднёвага фронту, у пятлюраўцаў — Галіцкае войска, у махноўцаў — 1-ы Данецкі корпус. Звязана гэта было з халадамі і антысанітарыяй у войсках. Ёсць дастатковая верагоднасць, што ў гэтую грамадзянскую месца тыфу зойме ліхаманка Эбола. Хутчэй за ўсё, вірус прыйдзе з Афрыкі ці Еўропы, а значыць, з тылу войскаў АТО, ён можа нанесці найбольш адчувальныя страты. Апалчэнне апынецца ў больш выгадным становішчы, калі паспее адгарадзіцца буфернай зонай», — піша адэскі антымайданавец Валянцін Азараў.

У лагеры сімпатызантаў Майдана чамусьці лічаць, што першая ахвярай віруса Эбола абавязкова стане акупаваны Крым. Так, прынамсі, паведамляе канал НТН са спасылкай на галоўнага ўрача Крыму Наталлю Пянькоўскую. Апошняя сказала пра тое, што прыход ліхаманкі Эбола ў Крым непазбежны.

Цікава, што ў крымскай прэсе вірус чакаюць з кантынентальнай Украіны. Газета «Вечерний Крым»: «Украіна будзе хворая. Хворая невылечнай хваробай, якая пагражае перакінуцца і на сумежныя тэрыторыі. І таму санітарны кардон на яе межах больш чым дарэчны. Смяротную чуму XXI стагоддзя трэба ізаляваць для пачатку, а ўжо пасля лячыць».

Калі меркаваць па адзінкавых выпадках хваробы ў Еўропе, думаецца, што маштабных памераў ва Украіне яна (калі прыйдзе сюды) не набудзе. У гэтым плане галоўную пагрозу ўяўляе хутчэй не вірус, а палітычны папулізм, здольны выклікаць масавую паніку. Напярэдадні выбараў 26 кастрычніка тэма ліхаманкі Эбола можа быць выкарыстана для дыскрэдытацыі ўлады і атрымання электаральных бонусаў. Тым больш, як сведчыць вопыт, цяперашняя мадэль масавай свядомасці ўкраінцаў ахвотна клюе на падобныя правакацыі.

Гаворка пра зіму 2009 года, на пачатак якой прыйшоўся віток дэвальвацыі — долар падскочыў з 6 амаль да 9 грыўняў. Практычна адначасова прэм'ер Юлія Цімашэнка кінулася «ратаваць» украінцаў ад пандэміі H1N1, або, прасцей кажучы, свінячага грыпу. Усё б нічога, алё актыўныя дзеянні па прадухіленні захворвання сталі прычынай узнікнення масавай панікі сярод насельніцтва. Людзі ліхаманкава пачалі шыць марлевыя павязкі ў сябе дома, паколькі ў аптэках яны скончыліся. Гэтак жа скончыліся антыбіётыкі і супрацьгрыпозныя лекі. На нейкі час у грамадстве пачалася сапраўдная калектыўная істэрыка, калі ўсе з ранку да вечара адсочвалі навіны, чакаючы чарговыя паведамленні пра смерць ад невядомай пагрозы. Кожная смерць адразу станавілася прадметам амаль што нацыянальных дэбатаў.

У выніку напрыканцы кастрычніка 2009 года ва Украіне былі зачынены на каранцін каля 9 абласцей. Ужо пазней папаўзлі чуткі пра тое, што нехта някепска зарабіў на продажы медыкаментаў і эканоміі бюджэтных сродкаў. Трошкі пазней усе зразумелі, што ў цэлым нічога выбітнага не адбылося, акрамя таго, што людзі з-за паранойі практычна забыліся пра дэвальвацыю і кепскі стан эканомікі. Не выключана, што сітуацыя паўтараецца.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Нават калі Масква цалкам адмовіць Мінску ў новых «кампенсацыях», Беларусь з торбай па свеце не пойдзе, аднак для саюзнай дзяржавы гэта будзе ўсё ж прыкметная страта. Масква не будзе публічна адмаўляць у дапамозе Беларусі, бо цяпер не той час, калі сварацца з саюзнікамі. Але і спяшацца з гэтай дапамогай Расія таксама не будзе. Пытанне гэта няпростае. У Маскве яго будуць разглядаць уважліва, не спяшаючыся, ветліва, але доўга. Іншымі словамі, Масква ўсімі сіламі зацягне працэс, паколькі ў расійскім бюджэце лішніх долараў сёння няма.

**«Независимая газета» (Расія)**

На пасяджэнні Вышэйшага Еўразійскага эканамічнага савета Аляксандр Лукашэнка абвясціў, што ЕАЭС «дэ-факта заняў сваю нішу ў сусветнай эканаміцы і нават палітычным парадку дня». Паводле яго слоў, «мы дэ-юрэ завяршаем фарміраванне найбуйнейшага агульнага рынку на еўразійскай прасторы». Але жыццяздольнасць Еўразійскага эканамічнага саюза выклікае сумневы, як, зрэшты, і ўсіх інтэграцыйных праектаў — заяўленых, але не працуючых».

**«RFI» (Францыя)**

Калі прэзідэнт Беларусі хоча такім застацца, а не паўстаць перад судом у Нідэрландах, ён павінен прадумваць усе свае крокі ва ўкраінскім пытанні, а пра незалежнасць Украіны нават не ўзгадваць. Лукашэнка можа паўтарыць лёс Януковіча. Кіраўнік Беларусі, як і Януковіч, успрымаўся ЗША і Еўропай прыхільнікам Расіі. Для таго, каб збалансаваць сваіх прарасійскіх партнёраў, Януковіч стаў падтрымліваць нацыяналістаў. У выніку, яны яго і зрынулі. Зараз Лукашэнка, баючыся ўзрастання магутнасці РФ, падтрымлівае лаяльных нацыяналістаў, каб збалансаваць прарасійскіх партнёраў. Яны і яго могуць зрынуць.

**«Люди» (Украіна)**

Галоўнай інтрыгай на працягу ўсяго перыяду падрыхтоўкі «эпахальнай падзеі» было стаўленне Беларусі да саюзу: уступіць — не ўступіць. Прэзідэнт рэспублікі патрабаваў адмены канфіскацыі пошліны ад экспарту нафтапрадуктаў за межы тады ўжо існуючай агульнай мытнай прасторы ў расійскі бюджэт. Інакш, заяўляў Лукашэнка, такі саюз нам, Беларусі, не патрэбны. Зразумець яго можна — краіне не выжыць без знешняй дапамогі. Не трэба быць асабліва празорлівым, каб зразумець: адмовіўшыся ад Расіі, Бацька разгорне антырасійскую кампанію ўнутры краіны. Жадаючых, як гэта было на прыкладзе Украіны, узначаліць, ці хаця б паскорыць раскол паміж былымі рэспублікамі, на Захадзе хоць адбаўляй. Вось і давялося расійскаму кіраўніцтву аддаць Беларусі ўвесь абём экспартнага мыта, дзесьці каля 2,2 мільярда долараў.

**«Oilru.com» (Расія)**

Але калі адысці ад палітыкі і прыгадаць пра лёс шараговых беларусаў, то вымушана пагаджаешся з тым, што ў Беларусі сілавыя структуры выконваюць не проста палітычны заказ, а выступаюць жахлівым і стрымліваючым фактарам любой апалітычнай ініцыятывы, любога грамадзянскага ўчынку. Яно і зразумела – дыктатарскай форме праўлення не патрэбны ініцыятыўны грамадзянін, больш за тое, нават грамадзянін як паняцце. Сістэме неабходны паслухмяныя раб.

**«Корреспондент» (Украіна)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### Вялікабрытанія. У нас свая Чычаліна

Шарлота Роўз, «куртызанка вышэйшага класу», як яна сама сябе называе, вырашыла стаць брытанскім клонам Чычаліны — порназоркі, якая зрабіла неблагую кар'еру ў італьянскай палітыцы. Шарлота паспрабавала балатавацца ў парламент па акрузе Кластан пад лозунгам абароны сэксуальных свабодаў. Паводле вынікаў выбараў, якія адбыліся 9 кастрычніка, за Шарлоту Роўз прагаласавалі ўсяго 56 чалавек. Як піша прэса, «куртызанка» магла атрымаць і больш, калі б па той жа акрузе не ішоў кандыдат ад Афіцыйнай жахліва-вар'яцкай партыі прыдуркаватых. Гэта славутая брытанская клоунская партыя, якая патрабуе сярод іншага, каб усе партыі друкавалі выбарчую агітацыю на туалетнай паперы. Тое, што выбары ў Кланстане прыцягнулі такую ўвагу маргінальных палітыкаў, звязана з тым, што за імі сачыла ўся краіна. Гэта былі датэрміновыя выбары, выкліканыя зменай партыйных фарбаў мясцовым дэпутат Дугласам Гарсвелам (Douglas Carswell) — замест торы ён абраў партыю Незалежнасці Аб'яднанага Каралеўства. На хвалі расчаравання ўрадам кансерватараў Дуглас атрымаў 59 працэнтаў, яшчэ раз замацаваўшы трэнд росту правых еўраскептычных настрояў у брытанскай масавай свядомасці. Што тычыцца Роўз, то яна таксама ў накладзе не засталася. Як піша прэса, дзякуючы выбарам, яна стала вядомая ўсёй краіне, што значыць рост тарыфаў на яе паслугі.

**Паводле брытанскай прэсы**

### Расія. Пуцін «прызначыў любімую жонку»

Расійская прэса піша, што Крэмль вырашыў узняць статус ліберал-дэмакратаў, якімі кіруе адыёзны Уладзімір Жырыноўскі. Незвычайны рост сімпатый Пуціна да Уладзіміра Вольфавіча звязаны з тым, што сацыёлагі канстатуюць: электарат, які настальгуе па СССР і незадаволены дамовамі ДНР і ЛНР з Кіевам, схіляецца галасаваць за КПРФ. Таму цяпер у адміністрацыі прэзідэнта РФ, як сцвярджаюць крыніцы, актыўна рыхтуецца план па пераманьванні ўсіх прыхільнікаў максімальна жорсткага курсу Расіі ва Украіне да ЛДПР. Для партыі ўжо ўключаны рэжым найбольшага спрыяння ў шэрагу СМІ, дзе ахвотна цытуюцца ўльтраагрэсіўныя выказванні Жырыноўскага ў дачыненні да Украіны. У Крамлі, быццам, нават ёсць опцыя ўключыць жырыноўцаў у склад наступнага ўраду. Праўда, для гэтага ліберал-дэмакратам патрэбна будзе пасунуць камуністаў з другога месца. Пакуль шмат хто з палітолагаў не верыць у такую перспектыву.

**Паводле расійскай прэсы**

### ПОЛЬШЧА. Палякі прабачылі немцаў?

11 кастрычніка для шматлікіх палякаў мела месца гістарычная падзея — мясцовая футбольная зборная перамагла каманду ФРГ (чэмпіёна свету) з лікам 2:0. Між тым, у Германіі матч на варшаўскім нацыянальным стадыёне таксама разглядаецца як гістарычны. Справа ў тым, што ўпершыню пасля Другой сусветнай вайны матч паміж ФРГ і Польшчай абышоўся без хуліганскіх выхадак польскіх заўзятараў падчас выканання нямецкага гімну. Як правіла, польскія фанаты, пачуўшы нямецкі гімн, дэманстратыўна садзіліся, свісцелі або крычалі антынямецкія слоганы. Традыцыя, што ўзнікла ў часы, калі былі свежымі ўспаміны пра гітлераўскую акупацыю Польшчы, захавалася да нашых дзён. Аднак 11 кастрычніка нешта змянілася. Польскія заўзятары, як піша «Sueddeutsche Zeitung», спачатку пачалі свісцець, аднак пасля тыя свісткі перайшлі ў авацыі. «Sueddeutsche Zeitung» называе гэты выпадак пачаткам новай эры ў стаўленні палякаў да заходніх суседзяў.

**Паводле нямецкай прэсы**

### АЗЕРБАЙДЖАН. Цяпер кампанія супраць вяселляў

Услед за кампаніяй супраць пышных памінак улады Азербайджана заняліся вяселлямі. Сцвярджаецца, што вясельныя застоллі з'яўляюцца едзь не галоўнай прычынай шырокай беднасці насельніцтва і выклікаюць недахоп сродкаў у бюджэце, за кошт якога дзяржава праз інстытуты сацыяльнай падтрымкі вымушана дапамагаць арганізатарам такіх мерапрыемстваў. Гнеўнымі артыкуламі ў прэсе, як у выпадку з памінкамі, справа не абмежавалася. На ўзроўні ўраду Азербайджану прайшло некалькі пасяджэнняў, на якіх вырашана штрафаваць музыкаў, што бяруць вялікія ганарары за ўдзел у вясельных канцэртах. Таксама дастанецца дырэктарам т.зв. Дамоў урачыстасцяў, дзе часта святкуюць вяселлі. Лічыцца, што дырэктары спецыяльна прапануюць маладым і іх бацькам вялікі каштарыс за арганізацыю свята. Як лічыць апазіцыя, кампанія за эканомныя вяселлі — звычайны фармалізм, які павінен зрабіць ілюзію вялікай актыўнасці ўраду.

**Паводле азербайджанскай прэсы**

# Карнавал замест рэферэндуму

*Алег НОВІКАЎ*

**Урад Каталоніі адмовіўся ад правядзення рэферэндуму аб незалежнасці на карысць мерапрыемства, што не мае ніякай юрыдычнай сілы. Аднак гэта не фінал барацьбы за суверэнітэт краю.**



13 кастрычніка ў Іспаніі адбылася важная падзея. Дырэкцыя і футбалісты славутага клубу «Барселона» заявілі пра падтрымку ідэі каталонскай незалежнасці. Заява была зроблена пасля таго, як канстытуцыйныя суддзі забаранілі рэферэндум пра незалежнасць рэгіёну.

Нагадаем, 27 верасня кіраўнік іспанскай аўтаномнай супольнасці Каталонія Артур Мас падпісаў дэкрэт аб правядзенні рэферэндуму аб незалежнасці, на які павінна было быць вынесена два пытанні: «Ці хочаце вы, каб Каталонія стала дзяржавай?» і «Ці хочаце вы, каб гэта дзяржава была незалежнай?».

29 верасня Канстытуцыйны суд Іспаніі па запыце Кабінета міністраў прыпыніў рашэнне аб правядзенні рэферэндуму.

Крок футбалістаў быў вельмі сімвалічным, з улікам таго, што напярэдадні Федэрацыя футболу Іспаніі папярэдзіла клуб аб магчымым выключэнні з федэрацыі ў выніку падтрымкі ідэі абвяшчэння каталонскай незалежнасці. Дэманстратыўная пазіцыя «Барселоны» даводзіла рашучасць каталонцаў дабіцца незалежнасці нават за кошт каласальных матэрыяльных выдаткаў (футбол у незалежнай Каталоніі наўрад ці будзе здольны прыносіць такія даходы, як удзел у іспанскім дывізіёне).

А ўжо на наступны дзень, 14 кастрычніка, іспанскі палітычны лексікон абагаціўся новым выразам: «Las elecciones plebiscitarias» (плебісцытныя выбары). Так называецца акцыя, якая, на думку прэм'ера Артура Маса, павінна замяніць каталонцам рэферэндум пра незалежнасць краю. Знешне «Las elecciones plebiscitarias» будзе выглядаць як рэферэндум. Ва ўсіх муніцыпалітэтах стварацьт.зв. «сталы для галасавання», дзе можна будзе выказацца наконт ідэі суверэнітэту.

«Мая пазіцыя ясная. Нашым праціўнікам, прычым вельмі моцным, з'яўляецца іспанская дзяржава, якая любым спосабам не хоча дапусціць, каб каталонцы выказалі сваё меркаванне аб будучым палітычным уладкаванні сваёй краіны. Працягваць падрыхтоўку да апытання насельніцтва так, як планавалася ў падпісаным мною ўказе, азначала б біцца аб скалу з вялікай верагоднасцю разбіць сабе галаву. Таму мы павінны прыняць іншае рашэнне, якое дазволіла б высвеціць меркаванне грамадзян Каталоніі і адначасова цалкам адпавядала б існуючым законам», — заявіў Мас.

Уся гэта прыгожая фразеалогія палітыка разбіваецца аб адзін дробны, аднак вельмі важны нюанс — прававых наступстваў галасаванне 9 лістапада, у адрозненне ад рэферэндуму, мець не будзе. Улада, як адзначаюць юрысты, проста праканcультуецца з насельніцтвам. Пра несур'ёзнасць мерапрыемства сведчыць і рэакцыя Мадрыда на ініцыятыву Маса. Іспанскі Мінюст вуснамі намесніка кіраўніка дэпартамента заявіў, што не будзе аспрэчваць праз суд ідэю правядзення «Las elecciones plebiscitarias», паколькі гэта «форма актыўнасці сацыяльнага, а не прававога інстытуцыйнага характару».

Крытыкуюць Маса і прыхільнікі незалежнасці. Яны не могуць зразумець, у чым сэнс «Las elecciones plebiscitarias». «CiU («Канвергенцыя і Саюз» — партыя Артура Маса) не вытрымала ціску з боку іспанскай дзяржавы. Яны збіраюцца правесці «плебісцытныя выбары» і сімвалічна абвясціць незалежнасць, што нагадвае карнавал, які ўжо меў месца ў 2009-м», — кажа Жардзі Кантэра (Jordi Cantero), лідар партыі «Estat Català» (Каталонская Дзяржава).

Сапраўды, праект Маса вельмі падобны на акцыю, якую правялі нацыяналісты пяць гадоў таму. Тады жыхарам 554 муніцыпалітэтаў Каталоніі прапанавалі выказацца за і супраць незалежнасці. Відавочна, на ўдзел пайшлі выключна аматары пункту «так» (у выніку іх было каля мільёна). Па слядах апытання, якое хутчэй, сапраўды, нагадвала вулічнае свята, быў складзены ліст да дэпутатаў з заклікам прыслухацца да народнай думкі. Дакумент урачыста перадалі ў апарат ураду і парламент, дзе бюракраты пра яго хутка забыліся.

Але асабліва непакоіць уладу пазіцыя левай нацыяналістычнай партыі «Левыя рэспубліканцы» (ERC), ад галасоў якіх залежыць лёс ураду, які не мае большасці ў парламенце. «Левыя рэспубліканцы» пагражаюць разарваць пакт з CiU, умовай якога было менавіта правядзенне рэферэндуму пра незалежнасць. Калі ўрад не зможа праводзіць свае законапраекты ў парламенце, Каталонію чакаюць папярэднія выбары, на якіх ERC будзе адназначным фаварытам. У кіраўніцтве партыі, дарэчы, лічаць, што рэферэндум — не такая ўжо і важная рэч. Незалежнасць, на іх думку, можна абвясціць шляхам простага галасавання ў парламенце.

Іншыя нацыяналісты прапануюць судзіцца з цэнтрам, патрабуючы гарантаванага Асноўным законам права грамадзян на самавызначэнне. У любым выпадку, пакуль ніводная з партый незалежнікаў не падтрымала ідэю правядзення «Las elecciones plebiscitarias». Гэта значыць, што існуе пагроза развалу блоку прыхільнікаў суверэнітэту і адтэрміноўка праекту незалежнай Каталоніі.

Палітычныя каментатары больш асцярожна ацэньваюць крок Маса. Напрыклад, «El Mundo» лічыць што, па сутнасці, у прэм'ера не было іншага варыянту. Да правядзення нелегальнага рэферэндуму насуперак пастанове Канстытуцыйнага суда каталонская эліта не гатовая. Яе, у тым ліку, непакоіць адмоўнае стаўленне да каталонскага незалежніцкага праекту ў Брусэлі. Каб выйграць час для роздуму, Артур Мас і вымушаны быў прыдумаць «Las elecciones plebiscitarias».

Акрамя таго, ERC у выніку новых выбараў не здольная атрымаць парламенцкай большасці і, адпаведна, кіраваць Каталоніяй. Цугцванг прымусіць яе шукаць агульную мову з Артурам Масам, якога сёння лідары ERC называюць выключна «botifler» (здраднік). А гэта значыць, што на самай справе ад ідэі незалежнасці Барселона так ці інакш не адмовіцца. Як прыклад, 14 кастрычніка дэпутаты ад Каталоніі ў Еўрапарламенце пачалі дабівацца таго, каб Еўрапарламент прызнаў каталонцаў асобнай нацыяй.

# Ганконгскі Антымайдан

Алег НОВІКАЎ

**«Рэвалюцыю парасонаў» у Ганконгу ахвотна праецыруюць на падзеі на кіеўскім Майдане. А там, дзе Майдан, па закону жанру абавязкова павінен быць і Антымайдан.**



Сталымі фрагментамі апошніх тэлерэпартажаў з Ганконгу сталі кадры сутычак пратэстуючых студэнтаў з фізічна моцнымі людзьмі ў масках, якія спрабуюць разбурыць і дэблакаваць акупаваны імі цэнтр гораду. І калі сацыяльны партрэт актывіста руху Occupy Central (так называюцца апазіцыйны рух у Ганконгу) больш-менш зразумелы (моладзь і студэнцтва), то профіль іх апанентаў выглядае дастаткова загадкава. Хто яны такія, і якія матывы ў гэтых жыхароў Ганконгу, каб падтрымліваць у канфлікце бок Пекіна?

Заходняя прэса ў пошуках адказу на гэта пытанне выдзяляе тры сацыяльныя групы лаяльных Кітаю жыхароў Ганконгу.

Першая — гэта людзі сталага ўзросту. Разбіраць барыкады пратэстантаў яны не лезуць, аднак за кошт сваіх бурчання на адрас моладзі фармуюць тую самую маўклівую пасіўную большасць. Гэта сацыяльная фракцыя складаецца, як правіла, з тых, хто большасць жыцця пражыў у яшчэ ў брытанскім Ганконгу. Таму на акцыі Occupy Central пенсіянеры глядзяць праз прызму свайго жыццёвага вопыту. Сам тэрмін «пратэст» выклікае канатацыі з падзеямі 1967 года і спробай рэвалюцыі на пекінскай плошчы Цяньаньмэнь у 1989-м.

Пра падзеі на Цяньаньмэнь у прынцыпе ведаюць усе. Што тычыцца падзей 1967 года ў Ганконгу, то гэта малавядомая ў нас трагічная старонка гісторыі. Увесну 1967 года мясцовыя камуністы і студэнты пад уплывам Культурнай рэвалюцыі ў КНР вырашылі, што час вяртання Ганконгу ў лона Кітая нарэшце прабіў. Левыя арганізавалі выступы рабочых на мясцовай фабрыцы штучных кветак, адкуль пратэсты перакінуліся на студэнцкі квартал. Пры гэтым у ход ішлі самаробныя бомбы і зброя. Рэакцыя брытанскай каланіяльнай адміністрацыі была вельмі жорсткай. Усяго было забіта больш за 50 студэнтаў. Паліцыя страціла 5 чалавек.

Іронія гісторыі ў тым, што за крывавае падаўленне згаданага бунту мясцовая паліцыя атрымала ад каралевы Елізаветы ІІ тытул «каралеўская». Гэты факт ахвотна ўзгадваюць кітайскія прапагандысты, каментуючы крытычныя пасажы брытанскага прэм'ера Дэвіда Кэмерана наконт паліцэйскіх рэпрэсій супраць пратэстоўцаў у Ганконгу.

Паколькі абодва пратэсты — і ў 1967-м, і ў 1989-м — закончыліся паразай, людзі сталага веку не маюць ілюзій наконт таго, што Ганконг здольны супрацьстаяць паліцэйскаму рэсурсу метраполіі. Як метафарычна выказаўся адзін з прадстаўнікоў гэтай кагорты, «студэнты паляць трубку фантазіі». Натуральна, аксакалы таксама незадаволеныя тым, што рух Occupy Central парушыў іх прывычны лад жыцця. Напрыклад, з-за блакады вуліц спыніўся транспарт, што адрэзала некаторыя раёны ад цэнтру і выклікала перабоі з дастаўкай прадуктаў.

Сярод гэтай групы людзей на самай справе хапае незадаволеных схемай кіравання, якую Пекін навязаў Ганконгу, аднак яны лічаць, што зменаў можна дабіцца праз кулуарныя перамовы.

Другая сацыяльная група Антымайдану ў Ганконгу больш арганізацыйна аформленая, паколькі відавочна працуе пад дахам прапекінскай адміністрацыі. Гутарка пра шэраг грамадскіх праўладных ініцыятыў, найбольш вядомая з якіх — «Альянс за мір і дэмакратыю». Прааналізаваўшы кантэнт пракламацый Альянсу, можна заключыць, што галоўная мэта дзейнасці групоўкі — не дапусціць фармавання кааліцыі паміж студэнтамі і гарадскім сярэднім класам, а таксама сацыяльна ізаляваць пратэст.

Для гэтага ў ход ідзе езуіцкая рыторыка. «Альянс за мір і дэмакратыю» сцвярджае, што таксама ў прынцыпе за тое, каб горад сам абіраў сабе кіраўніка (галоўнае патрабаванне Occupy Central), аднак такія складаныя пытанні, як адміністратыўная рэформа, на вуліцы не вырашаюцца. Шматмільённы Ганконг, маўляў, не павінен стаць закладнікам 70 тысяч пратэстоўцаў студэнтаў, якія здольныя паралізаваць дзейнасць фінансавага інстытутаў — эканамічнага нерву Ганконгу. «Зараз, калі Occupy Central нарэшце пачаўся, мы адчуваем яго здушальны эфект. Фондавы рынак каціцца ўніз, крамы зачыненыя, нармальны побыт парушаны — і гэта толькі пачатак. Некаторыя кажуць, што гэта невялікі кошт за атрыманне сапраўднай дэмакратыі. Аднак тое ж кажуць закладнікам, прымушаючы іх пакутаваць», — гаворыцца ў агітацыйных матэрыялах «Альянсу за мір і дэмакратыю». Менавіта Альянс стаў аўтарам петыцыі, у якой заклікае студэнтаў прыпыніць акцыі. Усяго, дарэчы, зварот падпісалі недзе паўтара мільёна чалавек.

**Арганізаваны крымінал існаваў у Ганконгу заўсёды і падтрымліваў нефармальны дыялог з уладай. Сёння частка гангстэраў мабілізаваная ўладай для барацьбы з Occupy Central. «Трыядзе» даручаецца самая брудная справа**

Самая экзатычная — трэцяя катэгорыя антымайданаўцаў. Калі верыць заходняй прэсе, у бедных кварталах фармуюцца групоўкі, якім у канфлікце адводзіцца роля, падобная на тую, што падчас Майдану выконвалі т.зв. «цітушкі». Але, у адрозненне ад Украіны, у Ганконгу брыгады «цітушак» фармуе не абкам урадавай партыі, а сумнавядомая «Трыяда».

Арганізаваны крымінал існаваў у Ганконгу заўсёды і, натуральна, падтрымліваў нефармальны дыялог з уладай. Паводле лідараў пратэстаў, сёння частка гангстэраў мабілізаваная ўладай для барацьбы з Occupy Central. Чальцам «Трыяды», быццам, даручаецца самая брудная справа — бойкі са студэнтамі, атакі на барыкады, індывідуальны ціск і г.д. «Гэта адна з форм тактыкі, якую кантынентальныя камуністы выкарыстоўваюць час ад часу ў Ганконгу. Яны дасылаюць супраць нас крымінальных структуры і банды «гопнікаў», каб самім не браць адказнасць за збіццё людзей», — цытуе агенцтва CNN аднаго з актывістаў «Рэвалюцыі парасонаў». Праўда, прэса не выключае, што атакі гангстэраў на студэнтаў таксама робіцца па прычыне таго, што іх акцыі падрываюць бізнэс мафіі.

У любым выпадку, лагер праціўнікаў «Рэвалюцыі парасонаў» відавочна мае сацыяльную базу. Ад таго, ці здолее дэмакратычны рух яе дэфрагментаваць, шмат у чым будзе залежыць вынік бітвы за Ганконг. Нагадаем, што кульмінацыя супрацьстаяння чакаецца ў 2017 годзе, калі адбудуцца выбары ў гарадскі савет. Паколькі ў жніўні Пекін забараніў праводзіць прамыя выбары дэпутатаў, чакаецца, што выбары праз тры гады могуць выліцца ў новую серыю пратэсту.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Марын Ле Пэн



Лідар французскага Нацыянальнага Фронту (FN) вырашыла перайменаваць партыю, якая, дарэчы, зараз карыстаецца найбольшай падтрымкай французаў (калі б выбары адбываліся зараз, за FN прагаласавалі б 30–32 працэнты электарату). Відавочна, што змена назвы можа адлюстравацца на рэйтынгу, паколькі новая назва заблытае выбаршчыка. Аднак, падаецца, Марын Ле Пэн гэта не цікавіць. Калі верыць прэсе, прычынай рэбрэндынгу стаў канфлікт з бацькам — Жан Мары Ле Пэнам, які зайшоў вельмі далёка. Як вядома, FN быў заснаваны Жан Мары і дастаўся ў спадчыну Марын, якая, аднак, паспрабавала надаць гэтай праварадыкальнай структуры «чалавечы твар». Адной з галоўных перашкод на шляху пазбаўлення FN іміджу партыі нацыстаў аказаўся бацька Марын, які рэгулярна дазваляе сабе антысеміцкія і расісцкія рэмаркі, што вельмі маргіналізуе FN. Раней мадам Ле Пэн прыносіла прабачэнні за выхадкі бацькі, аднак нарэшце ёй гэта надакучыла. Адсюль ідэя новай назвы партыі, што павінна сімвалічна цалкам парваць са старым Ле Пэнам і яго праварадыкальнай спадчынай. Палітолагі станоўча ацэньваюць крок Марын, паколькі гэта дае ёй шанец загадзя падрыхтавацца да прэзідэнцкіх выбараў 2017-га.

### Абу Бакр аль-Багдадзі



Лідар Ісламскай дзяржава Сірыі і Іраку на днях паведаміў пра вяртанне на захопленай тэрыторыі да рабаўладальніцкага ладу. Гэта перш за ўсё будзе тычыцца жанчын-хрысціянак з племені курдаў-езідаў, якія пагалоўна абвешчаныя рабынямі, паколькі рэлігія, якую яны вызнаюць, быццам, уяўляе сабой «пакланенне д'яблу». Раней бацькі новай дзяржавы нават казалі пра стварэнне ў будучыні «рынкаў рабоў». Радыкалы ўпэўненыя, што выкарыстанне паднявольнай працы ёсць часткай мусульманскай рэлігіі, і гатовыя «адстойваць гэтае меркаванне перад тварам усіх нязгодных». Сцвярджаецца, што рабства мае «маральнае» значэнне, паколькі, паводле логікі рэлігійных фанатыкаў, дазваляе пазбегнуць здрадаў і распусты. Між тым, спецыялісты кажуць, што адраджэнне рабства мае хутчэй эсхаталагічны сэнс. Напэўна, ісламісты недзе прачыталі словы прарока Мухамеда пра тое, што рабства — прыкмета канца свету.

### Габар Вона



Лідар венгерскай праварадыкальнай партыі «Jobbik» заявіў, што пачынае рыхтавацца да кіравання краінай, і гатовы да перамогі на парламенцкіх выбарах у 2018 годзе. Дарэчы, партыя Габара Воны падвоіла сваю прысутнасць у мясцовых выбарных органах. Як адзначаюць венгерскія эксперты, вынік «Jobbik» — сенсацыйны. Арганізацыя, якая будуе сваю ідэалогію на антыцыганскай рыторыцы, радыкальным нацыяналізме, у выніку выбараў будзе кантраляваць 20 гарадоў, дзе яе прыхільнікі атрымалі пасады мэраў. А ў 18 з 19 мясцовых парламентаў «Jobbik» будзе другім паводле колькасці дэпутатаў. Найбольшую падтрымку выбаршчыкаў нацыяналісты атрымалі на ўсходзе краіны, дзе пражывае вялікая колькасць цыган, і абстаноўка блізкая да міжэтнічнага супрацьстаяння. У гэтым рэгіёне Венгрыі нават левыя спрабуюць у перадвыбарнай гонцы заручыцца падтрымкай традыцыйнага электарату правых партый. Можна прагназаваць, што поспех «Jobbik» прывядзе да яшчэ большага ўзмацнення правага азімута венгерскай грамадскай думкі. Застаецца ўзгадаць, што лідары партыі «Jobbik» неаднаразова выказвалі падтрымку палітыцы Расіі ва Украіне і, хутчэй за ўсё, маюць фінансаванне з Масквы.

# Гасан Канапацкі: Жыццё для Беларусі


Палкоўнік Гасан Канапацкі з жонкай і дачкой

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Адным з пачынальнікаў беларускай вайсковай справы быў палкоўнік Рускага імператарскага войска, палкоўнік войска Беларускай Народнай Рэспублікі, удзельнік руска-японскай, Першай і Другой сусветных войнаў Гасан Амуратавіч Канапацкі, прадстаўнік знакамітага роду беларускіх татар, прыналежных да герба «Адвага».**


Канапацкі другі злева ў артылерыйскай школе

## Царскі афіцэр

Гасан Канапацкі нарадзіўся 25 лютага 1879 года ў Мінску ў татарскай шляхецкай сям'і. Пасля вучобы ў Полацкім кадэцкім корпусе паступіў у Артылерыйскую школу імя Князя Канстанціна ў Пецярбургу, якую скончыў у 1879 годзе. Затым быў старэйшым афіцэрам у Рускай імператарскай арміі ў Забайкальскай акрузе. За геразім падчас руска-японскай вайны быў узнагароджаны царскімі ордэнамі Святой Ганны і Святога Станіслава. У 1909 годзе яму прысвоілі званне капітана і накіравалі ў Благавешчанск, дзе той камандаваў спачатку адной з батарэй Брыгады палявой артылерыі, а пазней і ўсім гэтым злучэннем.

У 1910 годзе Гасан ажаніўся з 22-гадовай Аленай Ільяшэвіч. Пазней была служба ў Хабараўску і Калузе. Менавіта ў апошнім з гарадоў у 1913 годзе ў Гасана нарадзілася дачка Тамара. Праз год беларускага татарына прызначылі камандзірам батарэі 57-й брыгады палявой артылерыі, дзе ён і сустрэў Першую сусветную вайну.

У 1916 годзе Канапацкаму было прысвоена званне падпалкоўніка, а ў студзені 1917 года ён камандаваў 69-й артылерыйскай брыгадай рускіх войскаў. Падчас баявых дзеянняў адважны камандзір неаднаразова быў на перадавой, а аднойчы нават трапіў пад нямецкую газавую атаку, у выніку якой быў цяжка атручаны, але выжыў. За геразім у баях Гасан Канапацкі быў узнагароджаны ордэнамі Святых Станіслава II ступені, Ганны II ступені і Уладзіміра IV ступені.

## На службе БНР

Тым часам Расійская імперыя развалілася, і афіцэр вярнуўся ў родны Мінск. 25 сакавіка 1918 года была абвешчана незалежнасць Беларускай народнай рэспублікі. Але немцы, пад акупацыяй якіх знаходзіліся тады беларускія землі, не дазволілі стварыць беларускія войскі. Пазней Беларусь занялі бальшавікі. Але не паспелі яны развесціць чырвоныя сцягі, як пачалася новая вайна: у заходнія вобласці Беларусі ўвайшлі часткі Войска Польскага.

У ліпені 1919 года дэлегацыя Беларускай цэнтральнай Рады Віленшчыны і Гродзеншчыны звярнулася да Юзафа Пілсудскага з просьбай аб стварэнні беларускай нацыянальнай арміі, якая б ваявала на баку II Рэчы Паспалітай. Беларусы таксама прапанавалі стварэнне Беларускай вайсковай камісіі пры польскім галоўным камандаванні.

Ужо 2 жніўня 1919 года гэтая арганізацыя пачала працу ў Вільні. Галоўнай задачай БВК была распрацоўка праекта фарміравання беларускіх вайсковых частак і падрыхтоўка камандных кадраў. Праз тыдзень палякі ўзялі Мінск. Хутка туды пераехала камісія, у склад якой увайшлі Павел Аляксюк, капітан Франц Кушаль, палкоўнік Гасан Канапацкі, палкоўнік Давід Якубоўскі, Сымон Рак-Міхайлоўскі і Юстын Мурашка.

Гасан Амуратавіч, згодна з дэкрэтам Юзафа Пілсудскага ад 22 кастрычніка 1919 года, быў прызначаны гетманам беларускіх вайсковых аддзелаў. У газеце «Беларускае жыццё» ад 7 лістапада 1919 года ён агучыў свой погляд на праблему фарміравання беларускага нацыянальнага войска.

Месцам фарміравання новых частак вызначыў Слонім. Пра маштаб дзейнасці камісіі мы можам меркаваць па перыядычных выданнях таго часу. У маіх руках газета «Goniec Miński» за 25 снежня 1919 года. На першай старонцы апублікаваны зварот Мабілізацыйна-агітацыйнага аддзелу БВК пра правядзенне конкурсу на напісання пракламацый і брашур, а таксама стварэнне агітацыйных плакатаў, што заклікаюць у беларускае войска. З прапанаваных тэм зваротаў варта ўзгадаць некалькі: «Ці трэба змагацца з бальшавікамі, або варта іх пусціць у Мінск, Гродна і Вільню?», «Няхай жыве беларускае нацыянальнае войска!», «Чаму трэба выкідваць бальшавіцкіх камісараў з Віцебска, Смаленска і Магілёва?», «Што давала царская Расія Беларусі?», «Што далі маскоўскія бальшавікі беларускаму народу?»

А вось некаторыя тэмы брашур, якія прапаноўваліся БВК: «Старажытныя беларускія вайсковыя песні», «Беларусь паміж Захадам і Усходам», «Кароткая гісторыя Беларусі», «Гісторыя беларускай культуры», «Знакамітыя гістарычныя постаці Беларусі часоў Вялікага Княства Літоўскага», «Дэмакратычная Беларусь і Польшча», «Украіна — сястра Беларусі», «Партызанскі рух на Беларусі», «Бальшавікі і Беларусь».

Палкоўнік Канапацкі патрабаваў, каб кожны афіцэр беларускага войска валодаў роднай мовай і добра ведаў ключавыя моманты айчыннай гісторыі.

Дзякуючы актыўнай дзейнасці Гасана Амуратавіча ў Варшаве для беларусаў былі створаны дзевяцімесячныя курсы ў Школе падхарунжых, а ў Востраве — трохмесячныя курсы для падафіцэраў. Увесь гэты час адбываўся набор у беларускае войска, а мабілізацыйны аддзел БВК знаходзіўся ў Мінску, у пакоі №38 гатэля «Гарны». Пра гэта «Goniec Miński» пісаў у пачатку чэрвеня 1920 года. Але ўжо праз месяц бальшавікі пачалі наступленне на Захад. 10 ліпеня яны былі ў Бабруйску, 11-га — у Мінску, 14-га — у Вільні. Камісія перабралася ў Лодзь.

З красавіка 1920 года Гасан Канапацкі адышоў ад кіраўніцтва гэтай арганізацыяй. Палкоўнік імкнуўся выкарыстоўваць у якасці камандзіраў афіцэраў былой рускай арміі, што вельмі не падабалася беларускаму нацыянальнаму актыву.

У лістападзе 1920 года аддзелы пад камандаваннем Гасана Канапацкага знаходзіліся на польска-бальшавіцкім фронце, а ў снежні ўдзельнічалі ў баявых дзеяннях пад Слуцкам. Дзякуючы манёўру гэтых частак «на савецкі бок» змаглі прабіцца атрады «Зялёнага Дубу».

## У Заходняй Беларусі

Пасля падпісання Рыжскай мірнай дамовы, паводле якой Беларусь была падзелена паміж савецкай Расіяй і II Рэччу Паспалітай, Гасан Канапацкі пасяліўся ў Вільні і актыўна ўдзельнічаў у дзейнасці беларускіх арганізацый (Беларускія фарміраванні ў складзе Войска Польскага былі ліквідаваныя ў маі 1921 года).

У міжваенны час Канапацкі прымаў удзел у дзейнасці Беларускага цэнтральнага выбарчага камітэту, якому ў выбарах 1922 года ўдалося правесці ў польскі Сейм 11 дэпутатаў і трох прадстаўнікоў у Сенат. Так з'явіўся Беларускі пасольскі клуб пад кіраўніцтвам Браніслава Тарашкевіча. Таксама Канапацкі ўдзельнічаў у дзейнасці Таварыства «Беларуская хатка». У красавіку 1925 года ў газеце «Беларуская доля» быў апублікаваны адкрыты ліст за подпісам Гасана Канапацкага і яшчэ некалькіх асоб аб іх нежаданні далейшай працы ў Часовай беларускай радзе, у якой у асноўным знаходзіліся прадстаўнікі прапольскага накірунку беларускага руху ў Вільні.

У студзені 1926 года ў Канапацкага нарадзіўся сын Мацей. Пасля майскага перавароту Юзафа Пілсудскага палкоўнік прыклаў усе намаганні дзеля таго, каб стварыць Клуб беларускай інтэлігенцыі, што ўрэшце яму ўдалося. Пазней палкоўнік часта публікаваў свае артыкулы ў выданнях, якія друкаваліся гэтай арганізацыяй. У 1927–1928 гадах Гасан Канапацкі быў рэдактарам газеты «Беларускі радны». Падчас выбараў у Сейм і Сенат у 1928 годзе ён быў кіраўніком Цэнтральнага агульнабеларускага выбарчага камітэту, які прадстаўляў кандыдатаў з Ліды і Навагрудка.

У гады Другой сусветнай вайны Гасан Амуратавіч працягваў жыць у Вільні. Дзіўна, але падчас «першых Саветаў» яго не кранулі савецкія рэпрэсіі. Не чапалі яго і немцы. Сын палкоўніка Мацей у гады нацысцкай акупацыі хадзіў у Беларускую віленскую гімназію, а сам Гасан Канапацкі быў старшынёй бацькоўскага камітэту гэтай навучальнай установы. У 1946 годзе сям'я беларускага вайскоўца вырашыла рэпатрыявацца ў Польшчу і выехала ў Быдгашч, дзе ў маі 1953 года Гасан Амуратавіч Канапацкі памёр. Пахавалі яго на мясцовых могілках. Блізкія да сённяшняга дня захоўваюць яго памятныя рэчы (у тым ліку пагон з мундзіру афіцэра Беларускай вайсковай камісіі).

«Да канца жыцця мой прадзед Гасан Канапацкі, гэтак жа, як і мой бацька Ібрагім Канапацкі, аддана служылі беларускай зямлі. У кожным родзе ёсць постаці, якімі асабліва ганарацца ўсе нашчадкі фаміліі. Для нас, беларускіх татар Канапацкіх, такой асобай з'яўляецца менавіта Гасан Амуратавіч Канапацкі», — адзначыла гісторык Зарына Канапацкая.


МЕНЧАНЕ!
Варожая навала, што пагражала нашаму старому Менску,
АДБІТА
ДЗЯКУЮЧЫ АДВАЗЕ І АХВЯРАМ ПОЛЬСКАГА ЖАЎНЕРА.
[illegible] БЕЛАРУСКАЕ ВОЙСКА?
Устаньма-ж на абарону радзімага краю!
Пад штандар Пагоні, у Беларускае Войска!
Хто дужы і малады — да зброі!
Беларуская Вайсковая Камісія.

Адно з абвяшчэнняў БВК


Гасан Канапацкі з жонкай, 1917 год

# Андрэй Вайтовіч — сябра Ларысы Геніюш



Андрэй Вайтовіч у апошнія гады свайго жыцця

Сяргей ЧЫГРЫН

**Андрэй Піліпавіч Вайтовіч (1920–2008) жыў у Слоніме на вуліцы Касманаўтаў. Блізка пазнаёміў мяне з гэтым актыўным і энергічным чалавекам зямляк, гісторык Сяргей Ёрш у 1996 годзе.**

Нарадзіўся Андрэй Вайтовіч у 1920 годзе ў вёсцы Залозкі на Навагрудчыне. Скончыў сем класаў у Любчы і паступіў у Віленскую электра-механічную гімназію, але закончыць яе не паспеў, бо пачалася Другая сусветная вайна.

### Адзін з сяброў БНП

У часы акупацыі Андрэй Вайтовіч вучыўся ў Навагрудскай настаўніцкай семінарыі. А ў 1943 годзе ўступіў у беларускі батальён Барыса Рагулі, які ахоўваў вёскі Навагрудчыны ад нямецкіх карнікаў і розных марадзёраў. Летам 1944 года выехаў у Польшчу. Там трапіў у вядомы батальён «Дальвіц». Пасля падрыхтоўкі, вярнуўся на Беларусь для арганізацыі падполля Беларускай незалежніцкай партыі. Яго дэсантавалі ў верасні 1944 года на Дзятлаўшчыне, хаця па планах ён павінен быў апынуцца ў іншым месцы. Тым не менш праз пэўны час Андрэй Вайтовіч пад мянушкай «Андрук» зноў апынуўся на Радзіме. Перад адпраўкай быў прызначаны кіраўніком Беларускай незалежніцкай партыі (БНП) у Баранавіцкай вобласці. Ён павінен быў вербаваць сяброў БНП, збіраць звесткі пра сітуацыю ў Беларусі, рыхтаваць пляцоўку для прыёму самалёта і г.д.

Спачатку ўсё ішло даволі добра. Андрэй Вайтовіч ведаў родныя мясціны, людзей, хутка збіраў інфармацыю. Але не ведаў ён, што за ім пільна сочаць агенты дзяржбяспекі і яго сябра па вучобе ў Навагрудку Павел Турайкевіч. Той самы Павел, з якім яны разам уступалі ў БНП. Менавіта ён і выдаў Андрэя Вайтовіча НКУС. Яго арыштавалі ў канцы верасня 1944 года. Доўга дапытвалі, катавалі, 64 дні ён правёў у камеры-адзіночцы мінскай «амерыканкі», а потым — у карцэры. Пасля тыднёвай галадоўкі яго прывялі на допыт да міністра дзяржбяспекі Цанавы.

Допыт у Цанавы згадвае Сяргей Ёрш у сваёй кнізе «Вяртаньне БНП» (Мінск—Слонім, 1998. с. 36.): «Цанава пачаў здалёк: «Мы знаем, что ты не советский человек, но вот что тебя заставило вести борьбу с советской властью?..» Пасля Цанава не вытрымаў і запытаўся пра галоўнае: «Так ты всё-таки скажешь ЦК своей партии?». «Гражданін начальнік, што знаў, я вам сказаў», — адказаў Андрэй Вайтовіч. «Нет, нет! Ты пойдёшь в камеру, подумаешь. Мы с тобой ещё встретимся», — крычаў Цанава...»

Яны болей не сустрэліся. Андрэю Вайтовічу пасля допытаў далі восем гадоў лагераў, якія адбываў у Казахстане і ў Сібіры. У канцы 1952 года яго выслалі на пасяленне ў Паўночнаенісейск. Там пазнаёміўся і ажаніўся з рускай дзяўчынай з сям'і, якая таксама была выслана на поўнач. А ў 1958 годзе вярнуўся на зямлю роднай Беларусі, пасяліўся і жыў у Слоніме, працаваў на мэблевай фабрыцы, будаўніком.

Усё жыццё Андрэй Вайтовіч падтрымліваў сувязі з былымі байцамі «Дальвіца», у тым ліку і з Барысам Рагулем. А летам 1997 года прымаў удзел у сустрэчы «рагулёўцаў» у Вільні.

### Сяброўства з Ларысай Геніюш

Прайшоўшы ўсе жыццёвыя нягоды і сталінскія катаванні, Андрэй Піліпавіч Вайтовіч часта ўспамінаў пра Ларысу Геніюш, з якою шмат гадоў сябраваў. А адбылося ў яго знаёмства са слыннай беларускай паэткай з дапамогай сяброў па сталінскіх лагерах. У 1972 годзе Андрэй Вайтовіч наведаў свайго сябра па рэпрэсіях Казіміра Гінца ў Вроцлаве, які быў знаёмы з Ларысай Геніюш. Той папрасіў Вайтовіча наведаць паэтку ў Зэльве і перадаць ёй прывітанне, а таксама даў Андрэю хусцінку, якую некалі ў лагерах падаравала яму паэтка. Вярнуўшыся з Вроцлава, Андрэй Вайтовіч паехаў у Зэльву да Ларысы Геніюш.



Ларыса Геніюш з сям'ёй Андрэя Вайтовіча



Каля помніка Янку Геніюш. Пятро Рашэтнік, невядомы, П. Саўчук, Усевалад Кароль, Андрэй Вайтовіч. Зэльва, 1980-я гады



Андрэй Вайтовіч з жонкай у царкве

Так яны пазнаёміліся і да апошніх дзён жыцця паэткі шчыра сябравалі. Гэта Андрэй Вайтовіч дапамог ёй зрабіць помнік на магілу Янкі Геніюша і прывёз яго з Навагрудка ў Зэльву. То свежанінкі прывязе, то мёду — ні ў чым і ніколі не адмовіла сям'я Вайтовічаў мужнай і таленавітай жанчыне з Зэльвы. Захаваўся ў маім хатнім архіве і арыгінал пісьма да Вайтовічаў ад Ларысы Геніюш.

Гэты ліст пры жыцці мне перадаў Андрэй Піліпавіч. «Ты даследуеш творчасць Ларысы Антонаўны, няхай гэта пісьмо будзе ў цябе», — сказаў Андрэй Піліпавіч. Ліст раней не публікаваўся. Нават у кнігах эпісталярнай спадчыны Ларысы Геніюш, якія падрыхтаваў і выдаў Міхась Скобла, гэтага ліста да Вайтовічаў не было.

Вось што пісала Ларыса Геніюш да Вайтовічаў 3 ліпеня 1981 года: «Даражэнькія! Як магла выканала Вашую просьбу (напісала верш для маладых — сына і яго нявесты Вайтовічаў. — С.Ч.). Шчыра вітаю маладых і жадаю шчасця і доўгіх год жыцця! У мяне па-ранейшаму былі нядобрыя весткі з Польшчы. Пачынаю ужо чапліцца да Міхася (унука Ларысы Геніюш. — С.Ч.). Цяпер няма ні лістоў, нічога, і сэрца маё замірае, калі пра іх думаю. Айцец Васілій (Васіль Чыкіда (1937–2000) — святар, настаяцель зэльвенскай Свята-Троіцкай царквы. — С.Ч.) — на два прыходы, і рэдка цяпер яго бачу. Ён многа абяцае, але не ў сілах усё выканаць. Таму я прыехаць да Вас не змагу. Ды і здароўе няважнае. Пагоршала з сэрцам. Бядую, што няма з кім пад'ехаць па ягады, па суніцы. Пару дзён быў у мяне Коля Канаш (Мікола Канаш (1926–2006) — сябра Ларысы і Янкі Геніюшаў. Пазнаёміўся з паэткай у сталінскіх лагерах у Інце. Жыў у Жлобіне. — С.Ч.). Вельмі бадзёры, добра выглядае і чуецца. Заязджалі праездам з Навагрудка і нашыя слаўныя беларускія мастакі. Адзін быў з жонкаю. Фатаграфавалі і мяне, і хату з усіх бакоў. Пісаць мне ўжо неяк крыху цяжка, бо не тыя гады. Харошыя Вы людзі, і я Вам вельмі ўдзячная за ўсё, асабліва за дапамогу з пахаваннем с.п. мужа і з помнікам яму. Цукеркамі Вашымі пачаставала знакамітых мастакоў. Прыдаліся яны мне як ніколі. Буду рада бачыць Вас абоіх зноў у сваёй хаце, бо чуюся вельмі адзінока. Сын і Міхась у Беластоку вельмі просяць выклікаў, а іх не даюць тут. Усяго Вам добрага. Са шчырасцю да Вас — Ларыса Геніюш, Зэльва».

Аднойчы Андрэй Вайтовіч паказаў мне свой сямейны альбом. О, гэта быў незвычайны альбом! Справа ў тым, што пры сустрэчах з Ларысай Геніюш Андрэй Піліпавіч расказваў ёй пра сваіх бацькоў, сясцёр, братоў, пляменнікаў. Паэтка ўважліва слухала і затым перапраўляла пачутае ў вершаваныя радкі: некалькі соцень іх ён занатаваў у свой сямейны альбом са здымкамі сваякоў. А бывала папросіць паэтку напісаць верш для сына, для суседа, у якога юбілей, ці нейкая іншая нагода — і яна пісала. Вось так і захавалася ў Андрэя Вайтовіча невядомая нікому асабістая літаратурная спадчына Ларысы Геніюш, прысвечаная ягоным сваякам. Усе гэтыя вершаваныя радкі пры жыцці спадар Вайтовіч перадаў мне. У іх — любоў да сваіх сяброў, да беларускай зямлі і яе працавітых і мужных людзей, пачуццё нацыянальнай годнасці і гонару. Прывяду толькі некалькі строфаў з гэтых твораў:

***

*Так раны людскія дабром*
*сваім гоячы,*
*Часам ва ўмовах даволі цяжкіх,*
*Роду свайму памагаюць*
*Вайтовічы,*
*Ў дастойныя людзі выводзяць*
*сваіх.*

***

*...Родам з поля, і з лесу,*
*і з бору мы,*
*Усе мы родзічы, усе сябры,*
*Дык будзьма мужныя*
*і непакорныя*
*Й пушчам верныя, як зубры.*

***

*Каб згода, каб радасць аж праз берагі,*
*З вачэй каб слязіны ніводнай.*
*А ў сэрцах хай вечна жыве дарагі*
*Наш край наднямонскі і родны...*

Бывала сям'я Вайтовічаў у Зэльве вельмі часта, ды і Ларыса Антонаўна наведвала Вайтовічаў у Слоніме.

### Развітанне

7 красавіка 1983 года Ларысы Геніюш не стала. Андрэй Піліпавіч прыехаў праводзіць яе ў апошні шлях. А ў памяці, як ён казаў, выразна гучалі радкі з паэмы «З вёскі Залозкі над Нёманам»:

*Калі скончыцца дзень, і сум душу кране*
*Ўспамінам трывожным нейкім,*
*Дык, здаецца, чутно як калісь, як раней,*
*Быццам плача над доляй жалейка...*

Гэту паэму Ларыса Геніюш прысвяціла сястры Андрэя Вайтовіча — Барбары і яе мужу Мікалаю. У ёй адлюстраваны лёс звычайнай беларускай сям'і — такіх лёсаў на нашай шматпакутнай зямлі было шмат. Паэма гэта таксама знаходзілася ў альбоме Андрэя Піліпавіча. У жніўні 1996 года ён дазволіў мне яе апублікаваць. І яна з'явілася ў зэльвенскай раённай газеце «Праца». Праўда, шмат радкоў Ларысы Геніюш, прысвечаных сваякам Андрэя Вайтовіча, застаюцца яшчэ неапублікаванымі. Але час на іх яшчэ будзе.

Да сваіх апошніх дзён Андрэй Піліпавіч Вайтовіч заставаўся шчырым беларускім патрыётам, цікавіўся жыццём краіны, перажываў за ўсё тое, што адбываецца на нашай зямлі. Ужо хворы і слабы, ён з кіёчкам у руках прыходзіў у цэнтр горада і, як прафесійны будаўнік, дапамагаў аднаўляць слонімскі Спаса-Праабражэнскі сабор.

Пражыў ветэран беларускага вызвольнага руху 88 гадоў. Яго пахавалі пад бел-чырвона-белым сцягам 1 красавіка 2008 года на слонімскіх могілках.



Подпіс Людміла Дучыц (злева) і Ірына Клімковіч на прэзентацыі выдання

# Паганскія карані беларусаў

Марат ГАРАВЫ

**Якімі абярэгамі і амулетамі карысталіся продкі беларусаў? Якія магічныя практыкі яны выконвалі падчас абрадаў? Чаму і сёння частка беларусаў пакланяецца святым камяням, дрэвам, крыніцам? На гэтыя пытанні дае адказы кніга Людмілы Дучыц і Ірыны Клімковіч «Язычніцтва старажытных беларусаў».**




Гэтае 368-старонкавае багата ілюстраванае навукова-папулярнае выданне выйшла ў серыі «Невядомая гісторыя» пад рэдакцыяй прафесара Анатоля Тараса і надрукавана накладам 1500 асобнікаў у сталічным выдавецтве «Харвест».

Кніга прысвечана этнічнай рэлігіі старажытных беларусаў. Міфы, паданні, легенды і вераванні продкаў распавядаюць пра іх светаўспрыманне, лад жыцця і духоўны свет, звычаі і абрады, прымхі і забабоны, багоў і легендарных герояў, татэмных жывёл і сакральных расліны. Чытач даведаецца, якімі абярэгамі і амулетамі карысталіся продкі сучасных беларусаў, якія магічныя практыкі яны выконвалі падчас каляндарных абрадаў і ў паўсядзённым жыцці, чаму і сёння значная частка беларусаў пакланяецца святым камяням, дрэвам, крыніцам, верыць у здольнасці знахароў, у моц абыдзеннікаў, ужывае варажбу, замовы і праклёны, святкуе паганскія па сутнасці Дзяды і Радуніцу, Купалле і Каляды, Гуканне вясны, Ваджэнне куста і Пахаванне стралы. Чытачу будзе цікава пазнаёміцца з разнастайнымі духамі жытла, гаспадарчых пабудоў і прыродных абшараў, з ведзьмакамі і чараўніцамі, вешчунамі, пярэваратнямі, ваўкалакамі і іншымі дэманічнымі істотамі.

Як адзначыла кандыдат гістарычных навук Людміла Дучыц, цікавасць да паганства і духоўнага свету старажытных беларусаў прыйшла да яе ў час працы археолагам у Інстытуце гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. У сярэдзіне 1980-х гадоў падчас раскопак курганоў у зоне затаплення на беразе Заходняй Дзвіны ў Міёрскім раёне, што на Віцебшчыне, высветлілася, што гэтыя археалагічныя помнікі адносяцца да XVII–XVIII стагоддзяў. Гэта сведчыць пра панаванне свабоды веравызнання ў Вялікім Княстве Літоўскім у часы Сярэднявечча, што прывяло да адраджэння паганства і вяртання да язычніцкіх абрадаў. Паводле яе словаў, з ініцыятывы Ірыны Клімковіч яны пачалі рабіць вандроўкі па Беларусі, каб на свае вочы пабачыць захаваныя паганскія помнікі.

Ірына Клімковіч па адукацыі — інжынер-будаўнік дарог. «І ў юнацтве я ніколі не думала, што буду займацца даследаваннем традыцыйных вераванняў нашых продкаў. Аднак лёс звёў мяне са шматлікімі даследчыкамі гэтай тэмы, у тым ліку з Таццянай Валодзінай, Эдвардам Зайкоўскім і Уладзімірам Васілевічам, з якімі мы рабілі энцыклапедычны слоўнік «Міфалогія беларусаў», што вытрымаў тры выданні. Дзякуючы гэтай працы і напрацоўкам Людмілы Дучыц, якая падчас раскопак курганоў збірала легенды і паданні, а таксама фіксавала сакральныя мясціны, з'явілася мажлівасць напісаць навуковае выданне «Сакральная геаграфія Беларусі», — сказала Ірына Клімковіч.

# Краязнаўчы даведнік Гарадзеншчыны

Сяргей ЧЫГРЫН

**Ад гарадзенскага гісторыка, краязнаўца, грамадскага актывіста Уладзіміра Хільмановіча я атрымаў падарунак — яго новую кнігу «Каляндарны краязнаўчы даведнік Гарадзеншчыны» (дні і гады, асобы і падзеі). Яна выйшла ў вядомай серыі «Гарадзенская бібліятэка».**



Уладзімір Хільмановіч вельмі стаpанна і сур'ёзна, асабліва ў апошнія гады, працуе над складаннем календароў-даведнікаў. Гэта няпростая справа. Такім сур'ёзным прафесіяналам па календарах-даведніках, энцыклапедычных даведніках быў Янка Саламевіч (1938–2012). Ён ведаў шмат, ён калекцыянаваў розныя беларускія календары, даведнікі, ён марыў напісаць і выдаць кнігу пра гісторыю беларускіх календароў. Не паспеў. Я з гонарам сёння кажу, што справу Янкі Саламевіча па напісанні і складанні календароў і даведнікаў працягвае Уладзімір Хільмановіч. Новая яго кніга «Каляндарны краязнаўчы даведнік Гарадзеншчыны» — як прыклад гэтаму.

У анатацыі да кнігі Уладзіміра Хільмановіча напісана, што ён цягам дваццаці гадоў збіраў і натаваў фіксаваныя даты адметных гістарычных падзей, дні нараджэння і смерці выбітных асобаў, якія лёсам былі звязаныя з Гарадзеншчынай. І якія гэта асобы! Агінскія, Канстанцін Астрожскі, князь Альгерд, Соф'я Гальшанская, Радзівілы, Станкевічы, Сапегі, Ігнат Дамейка, Язэп Драздовіч, Кастусь Каліноўскі, Язэп Варонка, Міхась Забэйда-Суміцкі, Вацлаў Іваноўскі, Зоська Верас, Вацлаў Ластоўскі, Антон Луцкевіч, Міндоўг, Баляслаў Пачопка, Аляксей Карпюк, Ларыса Геніюш, Наталля Арсеннева, Уладзімір Караткевіч, Максім Багдановіч, Янка Брыль, Цётка, Максім Танк, Міхась Ткачоў і сотні іншых беларусаў, пра якіх мы павінны ведаць, памятаць, шанаваць.

У каляндар увайшлі і менш вядомыя беларусы-гарадзенцы, але якія таксама пакінулі свой след у гісторыі нашай зямлі. Напрыклад, паэт і журналіст Уладзімір Шурпа, даследчык нашай літаратуры і культуры Валеры Задаль, краязнаўца і педагог Уладзімір Урбановіч, журналіст і гісторык Зміцер Кісель.




**Каляндарны даведнік напісаны для нас, каб мы ведалі, калі нарадзіліся знакамітыя асобы, каб адзначыць іх даты вечарамі, сустрэчамі, згадкамі, кнігамі пра іх, каб мы памяталі, калі іх не стала, і ўсклалі на іх магілы кветкі і вянкі, паставілі ім помнікі і адкрылі мемарыяльныя шыльды**

Каляндарны даведнік напісаны для нас, каб мы ведалі, калі нарадзіліся знакамітыя асобы, каб адзначыць іх даты вечарамі, сустрэчамі, згадкамі, кнігамі пра іх, каб мы памяталі, калі іх не стала, і ўсклалі на іх магілы кветкі і вянкі, паставілі ім помнікі і адкрылі мемарыяльныя шыльды. Такія краязнаўчыя даведнікі сёння павінны ляжаць у кожнага чыноўніка на сталах у кабінетах, у кожнага кіраўніка прадпрыемства ці арганізацыі, у кожнага настаўніка і на кожнай парце ў школах і ВНУ. Вось тады мы будзем ведаць сваіх вялікіх асобаў, вось тады мы будзем шырока адзначаць і ўшаноўваць іх светлую памяць.

Акрамя дзён нараджэння і смерці выбітных асобаў Гарадзеншчыны і тых, хто жыў на нашай зямлі, аўтар даведніка занатаваў і адметныя даты беларускай гісторыі. Напрыклад, 21 сакавіка 1927 года польскія ўлады забаранілі дзейнасць Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Каля 400 кіраўнікоў і актывістаў Грамады былі рэпрэсаваныя. Ці такая падзея: 26 ліпеня 1511 года Навагрудак атрымаў Магдэбургскае права. Аўтар даведніка згадвае і такія даты: 14 лістапада 1939 года Заходняя Беларусь была афіцыйна далучаная ў склад БССР. 11 жніўня 1127 года з'яўляецца першай згадкай пра Гародню ў пісьмовых крыніцах (Лаўрэнцеўскі летапіс). А 14 снежня 1929 года польскія ўлады забаранілі на тэрыторыі Заходняй Беларусі народны гімн «Ад веку мы спалі». У хуткім часе ён быў забаронены і ў Савецкай Беларусі.

Вядома ж, Уладзімір Хільмановіч у сваім «Каляндарным краязнаўчым даведніку Гарадзеншчыны» не змог адлюстраваць усе важныя падзеі, а таксама нараджэнне і смерць вялікіх людзей. У даведнік шмат асобаў Гарадзеншчыны не ўвайшлі, ёсць памылкі ў гадах і месцах нараджэння асобаў.

Тым не менш, падобны краязнаўчы даведнік, які падрыхтаваў Уладзімір Хільмановіч, можа шмат разоў перавыдавацца, дапаўняцца, аднаўляцца. Таму што адразу ў адно выданне ўсяго не ўключыш, не зафіксуеш, не прыгадаеш. Але верыцца, што нялёгкая праца гарадзенскага руплівіца будзе працягвацца, і з'явяцца новыя дапоўненыя перавыданні, якія нам сёння вельмі патрэбныя.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.

Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

ЗАРЭГІСТРАВАНА Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

ЗАСНАВАЛЬНІК Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

ВЫДАВЕЦ Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81 novychas@gmail.com; novychas.info

НАДРУКАВАНА ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 1389

Падпісана да друку 17. 10.2014. 8.00. Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.